НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 25 (910) 8 ліпеня 2015 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## «БМВ» пратараніў прэзідэнцкі картэж

Старонка 12.



## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. Старонка 2.

# Беларускі бунт: made in China

На мінулым тыдні кітайскія рабочыя ў Добрушы зладзілі забастоўку і пешшу выправіліся ў Мінск.

Першымі фоткі незвычайнай калоны выклалі ў сацсеткі кіроўцы. Карцінка! Дзве сотні кітайцаў маршыруюць з Добруша ў Гомель.

Кітайцы крочылі ўздоўж шашы і па-руску маглі сказаць толькі «Мінск» і «грошы». Пазней высветлілася, што гэта — мяцежныя будаўнікі кампаніі «Сюань юань», якая будуе кардонную фабрыку ў Добрушы і ўжо тры месяцы не выплочвае сваім рабочым заробкі. Менавіта праз запазычанасць кітайцы зняліся са сваіх працоўных месцаў і пешшу пайшлі праз Гомель у Мінск да пасла КНР — з мясцовымі ўладамі і прадстаўнікамі кампаніі кітайцы гаварыць не жадалі.

Працяг на старонцы 3.



ІВАН ЯРЫВАНОВІЧ, TUT.BY

# Страшныя лічбы русіфікацыі



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

З 2010 года колькасць белмоўных вучняў зменшылася на 43 тысячы, белмоўнае студэнцтва практычна ліквідавана.

Калі такая палітыка працягнецца, беларуская мова можа першай са славянскіх выйсці з ужытку.

Канстытуцыя Беларусі дэкларуе роўнасць дзвюх дзяржаўных моваў, аднак у рэальнасці атрымаць адукацыю па-беларуску складана. З кожным годам колькасць беларускамоўных школ скарачаецца. А вышэйшая адукацыя на беларускай мове практычна ліквідавана.

Аднак калі знайсці беларускамоўную групу ў садку альбо клас у школе/гімназіі цяжка, але магчыма, то каледжы і ўніверсітэты спрэс рускамоўныя. Нягледзячы на шматразовыя просьбы грамадзян аб адкрыцці беларускамоўнага ўніверсітэта і той факт, што тысячы школьнікаў сканчаюць школы на беларускай мове, нацыянальнага ўніверсітэта па-ранейшаму няма.

Працяг на старонцы 2.

## «Для Расіі не праблема прымусіць Лукашэнку танчыць канкан»

Карэспандэнт «НН» паназіраў за канферэнцыяй для прарасійскіх актывістаў у Маскве. Старонка 4.

## Чароўная крэйдачка

Ён глядзеў на тры літаркі, надрапаныя паўзверх гравіроўкі «За верную службу Айчыне». І надрапана там было зусім не «ШОС». Казка. Піша Анатоль Івашчанка. Старонкі 14—15.

## Памерла 18-гадовая Марыя Лапіцкая — дзяўчына, чыю гісторыю кахання месяц таму расказала «Наша Ніва»



Пра гэта паведаміў яе жаніх Саша.

Марыя Лапіцкая пакутавала на рак, страціла руку. Два тыдні таму стан Марыі рэзка пагоршаў, і яе забралі ў раённую бальніцу. Дзеўчыне калолі абязбольвальныя, а потым перавялі ў рэанімацыю. Там Маша і памерла. Нядаўна ёй споўнілася 18 гадоў.

Праз рэзкае абвастрэнне хваробы маладыя не паспелі згуляць вяселле.

# Страшныя лічбы русіфікацыі

Працяг са старонкі 1.

На ўсю Беларусь сярэднюю спецыяльную і вышэйшую адукацыю па-беларуску атрымлівае каля 600 чалавек! Прытым што яшчэ ў 2010 годзе, перад чацвёртым прэзідэнцкім тэрмінам Аляксандра Лукашэнкі, гэтая лічба складала 5 000 чалавек. А ў 1994 годзе такіх былі дзясяткі тысяч.

«Наша Ніва» параўнала, наколькі змянілася колькасць беларускамоўных вучняў і студэнтаў ва ўсіх сферах адукацыі з 2010 года.

### Садкі — мінус 6100 чалавек

Першая, хоць і не абавязковая, прыступка адукацыі — дзіцячыя садкі. У іх ходзяць кожныя тры з чатырох маленькіх беларусаў. «Двухмоўных» садкоў не бывае — ці па-беларуску, ці па-руску.

За кошт дэмаграфічнага ўздыму ў апошнія гады колькасць дзетак у садках павялічылася. Аднак колькасць тых, хто займаецца па-беларуску, скарацілася на 6100 чалавек.

Ва ўсходняй Беларусі доля беларускамоўных вучняў скацілася ад 10% да 8%, у цэнтральнай і заходняй Беларусі лічба трымаецца на ўзроўні 15—18% (было 17—24%).

У Мінску ў беларускамоўныя групы запісаныя менш за 3 тысячы дзетак. Гэта ўсяго 3,2% ад агульнай колькасці.

### Школы — мінус 43 300 чалавек

У школах паказчыкі не такія нізкія, але нават на такім узроўні беларускамоўнасць трымаецца толькі за кошт вясковых школ. Сярод 135 тысяч беларускамоўных школьнікаў толькі 14 500 вучацца ў гарадах.

У Мінску доля стабільна нізкая, у абласцях адбываецца імклівае скарачэнне.

Напрыклад, на Міншчыне ў 2010 годзе па-беларуску навучалася кожнае трэцяе дзіця. Цяпер — кожнае чацвёртае.

Для ўсходняй Беларусі і такія лічбы недасяжныя. Там беларускамоўная адукацыя адкацілася з 17—18% да 12—13%.

Белстат даведкава паведамляе, што па-польску вучацца 917 чалавек, а па-літоўску — 59 чалавек. Цікава, што гэтыя лічбы якраз-такі растуць.

### Сярэдняя спецыяльная адукацыя — мінус 2900 чалавек

Беларускамоўныя групы ў каледжах зменшыліся да лічбаў статыстычнай памылкі — 300 чалавек на ўсю краіну. У 2010 годзе было ў дзесяць разоў больш!

Апроч таго, 21 800 (16,9%) студэнтаў навучаюцца па-руску і па-беларуску. На практыцы гэта значыць, што толькі адзінкавыя дысцыпліны выкладаюцца на беларускай мове.

### ВНУ — мінус 1400 чалавек

Падобная сітуацыя і ў вышэйшай адукацыі. Паводле статыстыкі, па-руску і па-беларуску навучаюцца 149 200 чалавек (41,1%). Але ў лік іх уваходзяць студэнты, у якіх па-беларуску можа чытацца толькі адзін нейкі курс.

На беларускай жа мове навучаецца ўсяго 300 чалавек, фактычна гэта толькі філалагічныя групы плюс нешматлікія групы гістфака. За пяцігодку лічба зменшылася ў 6 разоў.

Дарма інтэлігенцыя крыкам крычыць: без стварэння беларускага нацыянальнага ўніверсітэта, без выкладання ў ВНУ на роднай мове ёй пагражае знікненне. Тэма для чыноўнікаў застаецца «неактуальнай».

**Ягор Марціновіч**

| Садкі | 2010 | | 2014 | |
|---|---|---|---|---|
| | коль-касць* | доля | коль-касць* | доля |
| усяго навучэнцаў | 384 | | 410,6 | |
| па-беларуску, з іх: | 49,2 | 12,8% | 43,1 | 10,5% |
| Мінск | 3,1 | 3,8% | 2,9 | 3,2% |
| Брэстчына | 9,8 | 16,8% | 9,1 | 14,7% |
| Віцебшчына | 4,7 | 10% | 3,8 | 7,8% |
| Гомельшчына | 5,6 | 9,7% | 4,8 | 7,9% |
| Гродзеншчына | 8,8 | 19% | 8,3 | 18,2% |
| Міншчына | 13 | 24,2% | 10,4 | 18,2% |
| Магілёўшчына | 4,3 | 10,4% | 3,6 | 8,2% |

*у тысячах чалавек

| Школы | 2010 | | 2014 | |
|---|---|---|---|---|
| | коль-касць* | Доля | коль-касць* | доля |
| усяго навучэнцаў | 940,4** | | 931,3** | |
| па-беларуску | 178,4 | 19% | 135,1 | 14,5% |
| Мінск | | 2,3% | 3,9 | 2,3% |
| Брэстчына | | 24,5% | 32,4 | 20,6% |
| Віцебшчына | | 18,6% | 13,1 | 12,1% |
| Гомельшчына | | 18% | 18,7 | 12,8% |
| Гродзеншчына | | 21,8% | 18,1 | 16,9% |
| Міншчына | | 31,9% | 35,7 | 25,7% |
| Магілёўшчына | | 16,9% | 13,5 | 12,7% |

* у тысячах чалавек ** дадзеныя без уліку спецшкол

| Сярэдняя спецыяльная | 2010 | | 2014 | |
|---|---|---|---|---|
| | коль-касць | доля | коль-касць | доля |
| усяго навучэнцаў | 167 600 | | 129 000 | |
| па-беларуску | 3 200 | 1,9% | 300 | 0,2% |

| ВНУ | 2010 | | 2014 | |
|---|---|---|---|---|
| | коль-касць | доля | коль-касць | доля |
| Усяго | 442 900 | | 362 900 | |
| па-беларуску | 1 700 | 0,4% | 300 | 0,1% |

# Грэкі жылі добра. Але нядоўга

Што прывяло Грэцыю да банкруцтва? Тлумачым на пальцах.

У Грэцыі ў нядзелю прайшоў рэферэндум аб стаўленні да пазіцыі крэдытораў у асобе Еўрагрупы, еўрапейскага Цэнтрабанка і МВФ.

У выніку краіна, у якой 81% выбаршчыкаў хацеў бы застацца ў зоне еўра, упершыню можа пакінуць адзіную валюту з-за нежадання выконваць супольныя бюджэтныя правілы. Выхад Грэцыі з еўразоны можа выклікаць падзенне еўра і перыяд хаосу на фінансавых рынках.

Рэферэндум рэферэндумам. А грошай у грэкаў як не было, так і няма, банкі закрытыя стаяць. Як дайшла краіна да такога?

У Грэцыі часоў Еўрасаюза стварылі сістэму, пры якой людзі масава працуюць на блатных дзяржаўных пасадах, дзе нічога не трэба рабіць. Пры гэтым пенсійны ўзрост там таксама на 5—15 гадоў ніжэйшы за, дапусцім, германскі. Многія выходзілі на пенсію ў 50 ці 55 гадоў. А сацыяльныя дапамогі высокія, і ніхто не правяраў іх абгрунтаванасць. У выніку многія «сляпыя» ў Грэцыі адначасова атрымлівалі ад дзяржавы дапамогу па інваліднасці і... працавалі кіроўцамі таксі.

Спачатку гэты «сацыяльны кантракт» фінансаваўся з субсідый Еўрасаюза. ЕС на многае заплюшчваў вочы, бо Грэцыя была непатапляльным авіяносцам на мяжы савецкага блока, а пасля — аб'ектам цікавасці Расіі.

Калі першапачатковыя датацыі ЕС для выраўноўвання ўзроўню развіцця скончыліся, Грэцыя акурат уступіла ў еўразону і пачала хапаць танныя — для краін зоны еўра найбольшы давер — крэдыты.



Толькі немцы могуць выратаваць Грэцыю ад банкрутсва.

Крэдытаў набралася пад завязку, тады па чарзе сацыялістычны і кансерватыўны ўрады сталі фальшаваць статыстыку, каб браць новыя. Урэшце, калі грымнуў сусветны фінансавы крызіс, дзе коратка, там і парвалася.

**Мікола Бугай**

## Сцісла

**Праваслаўная царква прыпыніла пабудову капліцы на Лініі Сталіна**

...пакуль стуль не перанясуць бюст тырана. Пра гэта паведаміў старшыня Сінадальнага інфармацыйнага аддзела БПЦ протаіерэй Сяргей Лепін. Капліцу ў гонар Аляксандра Неўскага на тэрыторыі гісторыка-культурнага комплексу «Лінія Сталіна» планавалі пабудаваць яшчэ з 2009.

**Старшыня Еўрапарламента павіншаваў Ніла Гілевіча**

Віншаванні з нагоды атрымання прэміі імя Васіля Быкава «За свабоду думкі» даслаў народнаму паэту Беларусі Нілу Гілевічу старшыня Еўрапейскага парламента Марцін Шульц. Паводле словаў Шульца, ён усведамляе, «колькі адвагі, цярпення, моцы і неймавернай сілы волі вымагае» шляхетная справа Гілевіча.

**15 гадоў без Змітра Завадскага**

7 ліпеня роўна 15 гадоў з таго дня, як быў выкрадзены журналіст Зміцер Завадскі. З 2006 года справа аб выкраданні і забойстве Завадскага была прыпынена і да гэтага часу не ўзнаўлялася. Актыўных следчых дзеянняў не вядзецца.

**Дзяўчына, якую шукалі ў Дзвіне, знайшлася дома**

19-гадовая дзяўчына, якую шукалі вадалазы як патанулую ў Дзвіне ў межах Віцебска, знойдзена жывой. Яе спадарожнік паведаміў, што яны разам ужывалі спіртное. Затым дзяўчына вырашыла паплаваць, пайшла ў ваду, нырнула і больш на паверхні не паказалася. Цела патанулай шукалі да ночы.

**ЗША будуць плаціць заробак камандзе Саакашвілі**

Амерыканскія паліцыянты з Каліфорніі будуць рыхтаваць будучую паліцыю Адэсы, а ЗША будуць плаціць зарплату работнікам Адэскай абласной дзяржаўнай адміністрацыі. Пра гэта напісаў у фэйсбуку кіраўнік АДА Міхаіл Саакашвілі па выніках сваёй сустрэчы з паслом ЗША ва Украіне Джэфры Паетам.

**ЛМ**

## Самае чытанае на nn.by за 1—7 ліпеня

1 У Добрушы забаставалі кітайскія рабочыя, яны калонай дайшлі да Гомеля, збіраліся ісці на Мінск

2 Амерыканскую выкладчыцу асудзілі на 22 гады за сэкс з трыма 17-гадовымі навучэнцамі

3 Памерла 18-гадовая Марыя Лапіцкая — дзяўчына, чыю гісторыю кахання месяц таму расказала «Наша Ніва»

4 Саша Раманава пра сябе, пра Крым, пра «Сіцідог» і бяспраўных

5 Голас народу: «Якія нахран выбары?»

6 Парашэнка, Яцанюк і Авакаў усміхаюцца з Клічко ў паліцэйскай фуражцы

7 Грэкі жылі добра. Але нядоўга

8 «Сам рос у дзетдоме і маленькага Арцёма пакінуў сіратой»

9 Куды з'ехаць з Мінска на ліпеньскія сьвяты

10 Страшныя лічбы русіфікацыі: з 2010 года колькасць белмоўных вучняў зменшылася на 43 тысячы

# Беларускі бунт: made in China

Працяг са старонкі 1.

Ужо на трасе калону кітайцаў суправаджаў беларускі АМАП і міліцыя. Яны нікога не затрымлівалі і дазволілі рабочым дайсці да Гомеля, дзе з імі пачалі перамовы прадстаўнікі кітайскага пасольства і карпарацыі «Сюань юань». Але з першай спробы нічога не выйшла. У адказ на прапанову вярнуцца ў Добруш і працягнуць перамовы там кітайцы пакінулі дыпламатаў і пайшлі далей, памылкова скіраваўшыся ў бок Брэста, а не Мінска.

Але да сталіцы бунтаўнікі не дайшлі. Да рабочых прыехаў асабіста пасол КНР у Беларусі Цуй Цымін, пасля перамоваў з якім пратэст згас. Бліжэй да сямі гадзін вечара апошнія кітайцы паселі ў пададзеныя аўтобусы-гармонікі і паехалі ў Добруш.

Як стала вядома на наступны дзень, частцы кітайцаў заробак выплацілі — гэта каля 22 мільёнаў за тры месяцы. Але грошы далі не ўсім. У панядзелак 6 ліпеня некаторыя рабочыя на працу так і не выйшлі.

Беларускі бок перад кітайцамі запазычанасці не мае — кардонная фабрыка ў Добрушы будуецца кітайскай кампаніяй за кітайскі крэдыт.

## Рэпартаж з Добруша, дзе жывуць мяцежныя кітайскія будаўнікі

Пасля кітайскага бунту журналісты «Нашай Нівы» выправіліся ў Добруш, каб паглядзець, **як жывецца кітайскім працоўным**, якія нядаўна пешшу выправіліся ў Мінск па заробкі.



Ірына Арахоўская

### Размова праз глухі тэлефон

Сёння кожны дваццаты жыхар 20-тысячнага Добруша — гэта кітаец. Так павялося ад пачатку будаўніцтва кардоннай фабрыкі, якая мусіць стаць адной з найбуйнейшых у Еўропе.

Работы па ўзвядзенні фабрыкі выконвае кітайская кампанія Xuan Yuan Industrial Development Co., LTD — правільна чытаць «Сюань юань». Усе рабочыя, за выняткам кіроўцаў, аховы і кухарак, — кітайцы.

Мясцовае кітайскае кіраўніцтва лічыць за лепшае здымаць кватэры ў горадзе, а простыя будаўнікі жывуць у двухпавярховых кубрыках на самой будпляцоўцы. Трапіць туды пасля забастоўкі нерэальна — ахова спасылаецца на «галоўных» і нікога не пускае. Праўда, самі кітайцы рэгулярна выходзяць у горад — пагуляць і на закупы. Напаткаць іх за шпацырам вельмі лёгка.

Аднак праз непаразуменні ў мове з кітайцамі даволі цяжка камунікаваць. Даводзіцца карыстацца гуглаўскім сэрвісам галасавога перакладу: ты штосьці кажаш у тэлефон па-руску, а ён аналізуе і выводзіць гэта іерогліфамі на экран. Для таго, каб кітайцы зразумелі, хапае. З першай парай кітайскіх рабочых мы пагутарылі праз праграму недалёка ад будпляцоўкі, калі тыя валаклі ў свае кубрыкі піва і віно з мясцовай крамы.

«Учора быў страйк, так! Нам тры месяцы не плацілі грошай, і мы хацелі гаварыць з паслом, — выдае «гугл транслэйт» пасля словаў будаўніка Чана. — Ён прыехаў, і цяпер усё добра. Нам далі дзевяць тысяч юаняў».

Каб нам было больш зразумела, Чан нават паспрабаваў канвертаваць дзевяць тысяч юаняў у беларускія грошы, малюючы слупок памнажэння на зямлі. Але заблытаўся. У гэты час да ім з цікаўнасцю назіраў ягоны калега. А потым яму надакучыла, і ён, клапатліва трымаючы ў руках бутэльку «Кагора», штурхануў Чана ў бачыну: маўляў, хадзем ужо.





Іван Ярыванович, TUT.BY

### Кітайцы скупляюць піва на акцыях

Увогуле, мясцовыя сцвярджаюць, што кітайцы — аматары выпіць. У крамах яны закупляюцца так, каб не хадзіць некалькі разоў: калі піва — дык скрыню, калі «Ролтан» — дык каробку. Прадавачкі ў добрушскіх крамах кажуць, што асаблівым попытам карыстаецца таннае акцыйнае піва.

«Усё з паліц забіраюць! Нашым мужыкам ужо піць няма чаго! — абурана падзялілася назіраннем касірка ў адной з крам. — Так што міф гэта, што кітайцы не п'юць!»

Адзіны плюс жанчына ўбачыла толькі ў тым, што яны потым п'янымі па вуліцах не боўтаюцца, «як нашыя». Да мясцовых жанчын, дарэчы, кітайцы таксама не чапляюцца — баяцца добрушскіх мужыкоў, якія, маўляў, ужо неяк «памялі» двух кітайцаў за вельмі назойлівыя заляцанні да дзяўчат. Увогуле, пабываўшы ў Добрушы, можна зрабіць выснову, што міф — гэта не толькі тое, што кітайцы не п'юць, але і яшчэ тое, што беларусы талерантныя. На мясцовым пляжы ад мясцовых чуваць кпіны з кітайцаў. «О, глянь, памыцца прыйшлі», — нейкія падлеткі смяюцца з куды больш смуглявых азіятаў.

А вось і маленькія дзеці ўсё ніяк не прызвычаяцца да «дзіва» і прыстаюць да кітайцаў, спрабуючы спарадзіраваць іх мову, за што неўзабаве «атрымліваюць» ад жанчыны, што загарае побач. Зрэшты, яна ж потым і прызнаецца, што ў такую спёку не лезе ў ваду толькі таму, што «хто іх ведае, мо яны заразныя якіянебудзь: СНІД ці яшчэ якая халера. А я з імі ў адну рэчку?»

### Зайздрасць праз заробкі

Магчыма, чыннік прыхаванай зайздрасці да кітайцаў палягае ў іх заробках: па мясцовых мерках яны зарабляюць вельмі добра, 7—8 мільёнаў. Менеджмент і болей — пад тысячу даляраў і вышэй. Для Добруша гэта шалёныя грошы. «Ды мы што, самі такога не пабудуем? Ды ў нас мужыкі максімум 4—5 мільёнаў зарабляюць! А гэтым такія грошы башляюць! Адурэць!» — пераважна ў такім духу выказваліся мясцовыя мужчыны.

Праўда, былі і процілеглыя погляды. Іх збольшага прытрымліваліся жанчыны пенсійнага ўзросту.

«Ды нашы самі алкаголікі! — радыкальна выказалася адна з мясцовых жыхарак. — Гэтым кітайцам праходу не даюць — то на піва «стрэльнуць», то на цыгарэты. Хто разумнейшы — той у Расіі працуе альбо ў Гомелі. Карацей, знойдзе, як зарабіць. Няма чаго кітайцаў вінаватымі рабіць, калі сам дурны».

Але, як звычай, нават самыя радыкальныя погляды што да кітайцаў застаюцца прыхаванымі і далей за ананімны каментар журналістам не выходзяць. Справа ў тым, што беларусы кітайскай мовы не разумеюць, а кітайцы — нашай. Таму зносін паміж мясцовымі жыхарамі і кітайцамі няма ніякіх, за выняткам стаяння ў чарзе ў краме. Ды і яшчэ, са словаў некаторых мужчын, ім хтосьці «вышэй» загадаў «з кітайцамі кантакту не мець», таму «мы і не лезем». Але нядаўнюю забастоўку беларусы падтрымліваюць: маўляў, што яшчэ людзям рабіць, калі грошы тры месяцы не плаціўшы?

**Арцём Гарбацэвіч, Ірына Арахоўская, Добруш — Мінск**

## Лукашэнка звольніў чатырох мінскіх суддзяў за таямнічую правіну



На Нацыянальным прававым партале Рэспублікі Беларусь апублікаваны ўказ кіраўніка дзяржавы ад 2 ліпеня 2015 года №299 «Аб прызначэнні і вызваленні суддзяў». Здавалася б, нічога асаблівага, калі б не вызваленне ад пасад адразу чатырох высокапастаўленых суддзяў Эканамічнага (былога гаспадарчага) суда г. Мінска ў сувязі з учыненнем імі нейкай правіны.

Сваіх пасадаў пазбавіліся былы старшыня Эканамічнага суда Мінска Ігар Ждановіч **(на фота)**, яго намеснік Сяргей Кулакоўскі, суддзі Алег Клюйко і Андрэй Рыбалкін. Паведамляецца, што гэта адбылося «ў сувязі з учыненнем правіны, несумяшчальнай са знаходжаннем на дзяржаўнай службе (артыкул 124 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб судаўладкаванні і статусе суддзяў)».

Ждановіч прабыў на сваёй пасадзе не так доўга: ён быў прызначаны старшынёй у студзені 2014. З'яўляўся старшынёй Гаспадарчага суда Мінска з моманту стварэння суда, з 1 студзеня 1999 года. Да гэтага працаваў у органах пракуратуры Рэспублікі Беларусь, народным суддзёй, старшынёй суда Цэнтральнага раёна Мінска, намеснікам старшыні Найвышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь. Яму прысвоены першы кваліфікацыйны клас.

Яго намеснік Сяргей Кулакоўскі — родам з Гродна. Пасаду намесніка ён займаў з 13 верасня 2010. Да гэтага працаваў суддзёй Гаспадарчага суда Гродзенскай вобласці, суддзёй Найвышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь. Яму таксама прысвоены першы кваліфікацыйны клас. Дарэчы, менавіта Кулакоўскі выносіў прысуд па справе кнігарні «Логвінаў».

Чуткі аб маючым адбыцца звальненні названых суддзяў хадзілі ў юрыдычных колах даволі працяглы час, з моманту затрымання супрацоўнікамі КДБ Беларусі суддзі гэтага ж суда Юрыя Грушэцкага. Яму інкрымінуецца атрыманне хабару (ч. 3 арт. 430 — атрыманне хабару асобай, якая займае адказную пасаду). Санкцыі па гэтым артыкуле прадугледжваюць пазбаўленне волі на тэрмін ад 5 да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці. Грушэцкага затрымалі яшчэ ў лютым гэтага года.

**Улад Швядовіч**

# «Для Расіі не праблема прымусіць Лукашэнку танчыць канкан»

Карэспандэнт «НН» паназіраў за канферэнцыяй для прарасійскіх актывістаў у Маскве.

«Па маёй іерархіі Мюнхен — гэта славянскі горад. А франкі ж прыйшлі [на тэрыторыю цяперашняй Францыі — «НН»] з-пад Азова, з Растоўскай вобласці. Фактычна гэта нашыя прашчуры», — расказвае немалады бадзёры мужчына ў шэрым гарнітуры.

Можа падацца, што ён няўдала жартуе, але гэта не так. З кожным словам выступоўца распаляецца ўсё больш: «Савецкія войскі на трэці дзень маглі ўзяць Парыж і выйсці да Ла-Манша, але, на жаль... ну ці на шчасце... Гэтага не адбылося».

Я знаходжуся на мерапрыемстве Акадэміі бяспекі, якую праводзіць у Маскве Арганізацыя дамовы калектыўнай бяспекі (АДКБ). Гэта вайскова-палітычны саюз, у які ўваходзяць Беларусь, Казахстан, Арменія, Кыргызстан і Таджыкістан, але ні для каго не сакрэт, што кіруе працэсам Расія.

У чым сутнасць АДКБ? Калі на адну з краін-удзельніц нападзе іншая дзяржава, саюзнікі мусяць абараніць яе. Зрэшты, такой патрэбы яшчэ ніколі не было.

Выступоўца — адыёзны доктар паліталагічных навук Ігар Панарын. З яго ўжо другі дзясятак гадоў смяюцца ў інтэрнэце за прагноз аб развале ЗША на шэсць частак да 2015 года. Кадэбіст Панарын цяпер працуе «каардынатарам аналітычнай асацыяцыі АДКБ».

«Буш папрасіў дарадцу прыдумаць інфармацыйнае забеспячэнне тэрактаў 11 верасня, і тая прыдумала трызненне пра Бен Ладэна. Тэлекампанія «Аль-Джазіра» — філіял брытанскага канала «Бі-Бі-Сі». НАТА самалётамі вывозіць з Афганістана наркотыкі», — гучаць прамовы выступоўцаў.

Удзельнікі сустрэчы часцяком недаверліва пераглядваюцца між сабой: што за трызненне? Вакол мяне прадстаўнікі краін АДКБ — палітолагі, студэнты, журналісты, — а таксама госці з Грузіі і Сербіі, апірышча расійскіх інтарэсаў у Еўропе.

Беларусь прадстаўленая некалькімі ўдзельнікамі. Аляксандр Шпакоўскі некалі быў у кіраўніцтве нацыяналістычнага «Правага альянсу», падчас прэзідэнцкай кампаніі 2006 года ахоўваў Аляксандра Мілінкевіча, а цяпер апынуўся ў праўладнай «Цытадэлі».

Яшчэ адзін удзельнік — кардынатар псеўдаказацкай арганізацыі «Казацкі спас» Пятро Шапко. Ён праводзіць у беларускіх лясах «ваеннапатрыятычныя летнікі» для моладзі, дзе вучаць стральбе і рукапашнаму бою.

Псеўдаказак пагражае судзіцца з «Нашай Нівай» за «няправільнае» асвятленне гэтых летнікаў.

### Пытанне па-беларуску — праява нацыяналізму

«Калі я адсочваю сітуацыю ва Украіне па расійскіх каналах, я не веру на 100%. Гэта чыстая, лабавая прапаганда», — кажа ўдзельнік з Арменіі. «Прарасійскія» актывісты з замежжа скептычна ставяцца да імперскіх амбіцый.



Палявыя заняткі «Казацкага спаса» з беларускімі падлеткамі.

«Верыце ці не верыце — ваша права, — адказвае палкоўнік у адстаўцы Віктар Літоўкін, кіраўнік рэдакцыі вайсковых навінаў ІТАР-ТАСС. — Вы можаце ў Арменіі ўключыць і ўкраінскія каналы. Ёсць анекдот: «Як у Маскве прымаць украінскае тэлебачанне?» — «Трэба да антэны прывязаць кавалачак сала!»

Расійская вайсковая тусоўка з непрыхаванай пагардай ставіцца да любых нацыянальных праяў у краінах постсавецкай прасторы. Прэс-сакратар АДКБ Уладзімір Зайнетдзінаў абураецца гісторыяй, якая здарылася падчас прыезду генеральнага сакратара арганізацыі Мікалая Бардзюжы ў Мінск. «Яму нейкая групка студэнтаў непрывабнага выгляду задае пытанне па-беларуску. Вось што яны хацелі гэтым сказаць?» — не разумее ён.

«Гэта іх праява нацыяналізму! Ніхто ў жыцці па-беларуску не размаўляе», — падтаквае Шапко. Заўважаю, што па выніках апошняга перапісу насельніцтва 23% сказалі, што размаўляюць дома менавіта па-беларуску. «Хто гэты ваш перапіс праводзіў? Літоўцы?» — не верыць Шапко.

У кіраўніцтве АДКБ таксама ўпэўненыя, што ў лясах Літвы і Польшчы ідзе падрыхтоўка беларускіх баевікоў.

«Вось чаго на вашым Дні волі выходзяць са сцягам БНР?» — выказвае чарговую прэтэнзію Зайнетдзінаў. — «Гэты сцяг быў дзяржаўным у Беларусі ў 1990-х...» — «Не-е! Там сцяг БНР», — пераконвае ён.

### «З Расіі зрабілі сусветнае зло!»

Гэтыя людзі не замбіраваныя прапагандай, яны ствараюць яе самі.

«Назіраючы, што творыцца сёння ў міжнароднай інфармацыйнай прасторы, дзівуешся — з Расіі зрабілі агрэсара, сусветнае зло!» — здзіўляецца генерал-палкоўнік Валерый Семерыкаў, намеснік генсека АДКБ. У пачатку 1990-х ён падтрымаў ГКЧП і дагэтуль настальгіруе па савецкіх часах.

Асноўная пагроза, якую бачаць расійскія вайскоўцы, — народныя рэвалюцыі ў краінах постсавецкай прасторы. Рэцэпту, як змагацца з народным гневам, у іх няма.

На думку Семерыкова, першая «каляровая рэвалюцыя» адбылася ў... 1991 годзе. «Калі на плошчы перад Белым домам, дзе тусавалася моладзь, машынамі падвозілі гарэлку, хто за гэта плаціў? Хто рыхтаваў гэтыя выступленні, якія штурханулі маладых людзей пад баявыя машыны пяхоты?» — абураецца ён. Зрэшты, неўзабаве гаворка даходзіць да таго, што і ў 1917 годзе адбылася тыповая «каляровая рэвалюцыя».

Колькі расейцы не выхваляюцца, што санкцыі Захаду ім не перашкаджаюць, за закрытымі дзвярыма яны прызнаюць: гэта дзейсны рычаг уздзеяння.

### Скачучая ідэалогія

Але самая балючая тэма, якую не можа абмінуць ніводзін з выступоўцаў, — Украіна.

«Данбас ніколі разам з Украінай не будзе. Не могуць людзі, якія выхоўваліся на савецкіх ідэалах, трапіць пад скачучую ідэалогію Бандэры і Шухевіча!» — пераканаваны старшы памочнік генсека АДКБ Уладзімір Нікішын. (А «скачучая ідэалогія», відаць, пайшла ад жарту «хто не скача — той маскаль», якім грэлася ўкраінская моладзь на Майдане.)

У кава-паўзах абмяркоўваем з расійскімі ўдзельнікамі канферэнцыі той самы Майдан. У тым, што за ўдзел у мітынгу ўкраінцам плацілі, з іх не сумняецца бадай ніхто. «Але колькі трэба даць грошай, каб чалавек ішоў пад кулі? Побач забіваюць таварыша, а ён з драўляным шчытом усё адно ідзе наперад», — пытаюся я. У думках суразмоўцаў з'яўляецца нотка сумневаў: а можа, ім плацілі, але не папярэдзілі, што будуць расстрэльваць?

«Звярніце ўвагу на фотаздымак з Майдану. Якія пакрышкі гараць? Новыя! Было завезена 50 тысяч новых пакрышак, коштам каля $50 мільёнаў!» — паказвае прэзентацыю Ігар Панарын. Калі кіравацца яго логікай, кожная пакрышка каштавала... $1000!

З украінскай тэмы ён пераходзіць на армянскую — у тыя дні ў Ерэване набіралі абароты пратэсты супраць павышэння цэн на электраэнергію. Дэманстранты пабудавалі барыкады са смецевых бакаў. «Паглядзіце, які чысты смецевы бак! Я ў Ерэване шмат разоў быў, такіх чыстых ніколі не бачыў...» — пачаў расказваць канспіралагічную версію кадэбіст. «Паўгода таму мэрыя заключыла кантракт і замяніла ў цэнтры ўсе бакі!» — абурыліся відавочнай хлусні армяне. «Ну, можа быць», — саскочыў з тэмы Панарын.

### «Дайце грошы»

Адным з самых актыўных удзельнікаў дыскусій быў беларускі псеўдаказак Пятро Шапко. Падчас выступаў ён з розных бакоў падыходзіў да адной і той жа тэмы: Расія мусіць даць грошы прарасійскім арганізацыям у краінах-суседках.

«Я лічу, трэба наладзіць звычайную грантавую дзейнасць, — не хавае ён сваіх памкненняў. — Выдзеліць ужо існуючыя групы і даць ім магчымасць узмацніць медыйную дзейнасць. Сфарміраваць у краінах апорныя пункты — тры, чатыры канкрэтныя моцныя арганізацыі, — якія будуць праваднікамі. І проста сеткавым метадам распаўсюджваць інфармацыю і фармаваць светапогляд, выгадны краінам АДКБ».

На заўвагу, што гэта не зусім профіль дзейнасці арганізацыі, Шапко раскрывае сакрэт палішынэля: «Чаму менавіта АДКБ? Таму што, калі будуць расійскія фонды, гэта можа ўспрымацца як агрэсія».

Прарасійская «пятая калона» ў Беларусі спрабуе наладзіць якуюнікую актыўнасць у інтэрнэце. Да стварэння суполкі «Антымайдан» укантакце спрычыніліся беларускія ўдзельнікі канферэнцыі АДКБ. У першы ж яе дзень «Антымайдан» выбухнуў «сенсацыяй»: «Намеснік рэдактара «Нашай Нівы» прыйшоў на паклон у расійскае пасольства» (меўся на ўвазе мой удзел у канферэнцыі). Вось толькі дзе ў Маскве расійскае пасольства?

Шапко заклікае ўзмацняць у Беларусі расійскую прапаганду. «Кожны год я бачу нейкае вар'яцтва з гэтым Галадаморам. Абсалютна выдуманы міф. Цяпер пра такі самы «галадамор»загаварылі ў Казахстане.

Шапко скардзіцца, што ўкраінцы, якім ён спрабаваў давесці, што Галадамору не было, назвалі яго дурнем.

### Прайграная інфармацыйная вайна

Удзельнікі канферэнцыі прызнаюць, што АДКБ учыстую прайграе інфармацыйную вайну. Маўляў, пра дзейнасць НАТА ведаюць па ўсім свеце, а тое, чым займаецца АДКБ, не заўважаюць нават у краінах-удзельніках. Як выправіць сітуацыю? Прапануецца разгарнуць інтэрнэт-кампанію.

«Возьмем 77-ю брыгаду ў Вялікабрытаніі: там 2000 штатных вайскоўцаў, прызначаных для працы ў расійскіх сацыяльных сетках. Мала хто ведае, што ў брытанцаў ёсць дзве глабальныя калоніі: Канада і Аўстралія, дзе яны набіраюць этнічных украінцаў з веданнем рускай мовы», — раскрывае чарговыя «таямніцы» Панарын.

Па інфармацыі брытанскіх СМІ, у створаную брыгаду набралі 1500 чалавек, якіх будуць выкарыстоўваць для правядзення «нелятальных баявых дзеянняў» у сацыяльных медыя. Але гэтая колькасць работнікаў размеркаваная для працы па ўсім свеце: у Афганістане, Блізкім Усходзе, Лацінскай Амерыцы... «Расійскі» аддзел фармаваўся па астаткавым прынцыпе.

А вось існаванне пад Масквой «фабрыкаў троляў», работнікі якіх засмечваюць інтэрнэт-форумы постсавецкай прасторы, — рэальнасць.

### Мяжа між дапамогай і ўмяшальніцтвам

У АДКБ уваходзіць шэсць краін, кожная з якіх адстойвае свае інтарэсы. Беларусь перадусім выкарыстоўвае магчымасці арганізацыі для змагання з наркатрафікам і гандлем людзьмі. Арменія — як заслону ад магчымай азербайджанска-турэцкай пагрозы, Таджыкістан і Кыргызстан непакояцца праз суседства з Афганістанам.

Прэзідэнт Цэнтра сістэмнага аналізу і прагназавання Расціслаў Ішчанка, які пасля крушэння рэжыму Януковіча эміграваў у Расію, не гуляецца ў паліткарэктнасць. «Калі кажуць, што АДКБ павінна абараняць чыесьці нацыянальныя інтарэсы, гаворка вядзецца пра Расію», — адказвае колішні ўкраінскі дыпламат і палітолаг на закіды пра пасіўнасць АДКБ у вырашэнні праблемаў краінудзельніц. Калі ж дзяржавы не ў стане самі разабрацца са сваімі праблемамі, кажа Ішчанка, давядзецца дзяліцца суверэнітэтам.

«Ні пра якую незалежнасць Беларусі і іншых рэспублік гаварыць не даводзілася б, калі б не існавала Расійская Федэрацыя з яе магчымасцямі і сіламі. Але, на жаль, грамадскае меркаванне, асабліва ў інтэрнэт-прасторы, фармуецца за кошт заходніх фондаў і СМІ. Напрыклад, на тэрыторыі Беларусі наўпрост вяшчаюць апазіцыйныя сайты яркай антырасійскай скіраванасці з Літвы і Польшчы. Расія ігнаруе гэта як пагрозу? Чаму такая ж праца не праводзіцца з боку Расіі?» — завёў старую песню Шапко.

«Трэба працаваць, але рабіць гэта так, каб нацыянальныя эліты не пакрыўдзіліся і не спалохаліся, — выказаўся Ішчанка. — Унутры нават прарасійскіх сіл у постсавецкіх краінах пераважае тэндэнцыя да таго, што «мы самастойныя і рабіць замах на нас не трэба». Працаваць цяжка. Пачынаеце прапаганду — а вам у адказ кажуць: вы кваціцеся на суверэнітэт і будуеце Савецкі Саюз».

### Майдан пасля Лукашэнкі

«З палітычнага пункту гледжання прымусіць Лукашэнку танчыць канкан — увогуле не праблема, — упэўнены Ішчанка. — Таму што паслязаўтра Расія заяўляе, што не разглядае Беларусь як суверэнную дзяржаву, і пасляпаслязаўтра ў Лукашэнкі пачынаецца Майдан і ледзь не замежная агрэсія, бо ён ніхто і завуць яго ніяк... Але задача стаіць не ў тым, каб прымусіць, а пераканаць».

Цяперашнюю сітуацыю з будаўніцтвам Еўразійскага эканамічнага саюза Ішчанка бачыць як прыступку да больш шчыльнай інтэграцыі.

«Ствараецца АДКБ як вайсковая арганізацыя, вось вам ЕАЭС як эканамічная. Калі прапануецца стварыць палітычную надбудову — пачынаецца віск: маўляў, мы баімся. Ладна, працуйце пакуль так. Але калі ствараецца сур'ёзная эканамічная структура, рана ці позна яна запатрабуе супольных фінансаў і палітычнай надбудовы. Гэта шлях, які праходзяць усе буйныя саюзы», — папярэджвае Ішчанка тых, хто мяркуе, што можна атрымліваць ад Расіі толькі эканамічныя выгоды і пры гэтым захоўваць суверэнітэт.

«Арменія цалкам кантралюецца Газпрамам і Генштабам, — кажа на развітанне ўдзельнік з Арменіі. — Мне сорамна прызнаваць, але гэта так. У вас інакш. Без Расіі ў Беларусі ёсць шанец стаць нармальнай еўрапейскай краінай».

**Ягор Марціновіч,**
**Масква — Мінск**

# З прамысловых гігантаў звольнілі амаль 10 тысяч чалавек

Праз крызіс прадпрыемствы масава **скарачаюць работнікаў**.

На колькі змянілася колькасць работнікаў на беларускіх заводах па стане на першы квартал 2015 года з той, што была летась (у сярэднім за 2014 год)?

Аналізавалася сітуацыя на прамысловых гігантах — прадпрыемствах, дзе працавала больш за 3000 работнікаў. Такіх кампаній налічылася амаль чатыры дзясяткі. І на абсалютнай большасці з іх назіраліся скарачэнні.

Ад найбольшай колькасці работнікаў пазбавіўся Мінскі трактарны завод — мінус 1319 чалавек. Для гіганцкага прадпрыемства гэта быў кожны трынаццаты супрацоўнік.

Бабруйская «Белшына» страціла 1130 работнікаў (кожнага дзявятага), а наваполацкі «Нафтан» — 928 работнікаў (кожнага дванаццатага).

Агромністыя скарачэнні назіраліся ў будаўнічай галіне. МАПІД, будаўнічы трэст №8, будаўнічы трэст №3, «Гроднапрамбуд», «Гомельпрамбуд» сумесна выкінулі на рынак каля 2 тысяч работнікаў.

У працэнтных суадносінах ад найбольшай колькасці супрацоўнікаў пазбавіўся Гомельскі завод ліцця і нармаляў ЗЛіН. Без працы застаўся кожны шосты работнік кампаніі па вытворчасці сельскагаспадарчай тэхнікі.

Такім чынам, агулам з 29 прадпрыемстваў, якія займаліся скарачэннямі, былі звольненыя 9525 непатрэбных спецыялістаў.

Астраўком стабільнасці ў такой сітуацыі заставаўся БелАЗ, які пакінуў у штаце 10 739 работнікаў — раўнюсенька столькі ж, як і было.

Лідарамі па дадатковым наборы сталі Мінскі завод колавых цягачоў (+470 работнікаў) і «Беларуськалій» (+317 работнікаў).

Агулам на 10 кампаній, штат якіх разрастаўся, былі працаўладкаваныя 919 новых работнікаў. Што да фінансавых вынікаў дзейнасці прадпрыемстваў, сітуацыя выглядае надзвычай цяжкай.

З аднаго боку, звышпаспяховыя «Беларуськалій» і «Мазырскі НПЗ» (21 тысяча работнікаў на дваіх) разам атрымалі $290 мільёнаў.

Але пры гэтым астатнія 37 гігантаў, на якіх працуюць 210 тысяч чалавек, сумесна зарабілі за квартал усяго $1,5 мільёна.

**Ягор Марціновіч**



На МАЗе, нягледзячы на скарачэнні, працуе найбольш работнікаў — больш за 18500 чалавек.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

| | кампанія | работнікі ў 2014 | работнікі ў 2015 | змена колькасці работнікаў | змена колькасці работнікаў у % | прыбытак за 1 квартал 2015 (мільёны даляраў) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | МАЗ | 18879 | 18552 | -327 | -1,8% | -25,64 |
| 2 | МТЗ | 18840 | 17521 | -1319 | -7,5% | -15,95 |
| 3 | Беларуськалій | 16378 | 16695 | 317 | +1,9% | 196,12 |
| 4 | БМЗ | 10988 | 10893 | -95 | -0,9% | 30,10 |
| 5 | Нафтан | 11711 | 10783 | -928 | -8,6% | 3,77 |
| 6 | Белшына | 11739 | 10609 | -1130 | -10,7% | 0,04 |
| 7 | БелАЗ | 10739 | 10739 | | | 0,20 |
| 8 | Гомсельмаш | 8655 | 8203 | -452 | -5,5% | -19,55 |
| 9 | Гродна Азот | 8059 | 7759 | -300 | -3,9% | 15,34 |
| 10 | МАПІД | 7545 | 6780 | -765 | -11,3% | 5,30 |
| 11 | Магілёўхімвалакно | 5803 | 5920 | +117 | +2,0% | 0,002 |
| 12 | Інтэграл | 5351 | 5227 | -124 | -2,4% | 0,03 |
| 13 | Мінскі маторны завод | 5400 | 5031 | -369 | -7,3% | 1,08 |
| 14 | Гроднапрамбуд | 5266 | 5002 | -264 | -5,3% | 1,53 |
| 15 | Агракамбінат «Скідзельскі» | 5245 | 5278 | +33 | +0,6% | 0,04 |
| 16 | Будаўнічы трэст №8 | 4879 | 4310 | -569 | -13,2% | -1,34 |
| 17 | Мінскі завод колавых цягачоў | 4731 | 5201 | +470 | +9,0% | 4,44 |
| 18 | Мазырскі НПЗ | 4556 | 4569 | +13 | +0,3% | 94,23 |
| 19 | Віцебскаблаўтатранс | 4393 | 4237 | -156 | -3,7% | -0,67 |
| 20 | Магілёўліфтмаш | 4153 | 4151 | -2 | -0,0% | 1,25 |
| 21 | Мінаблаўтатранс | 4063 | 3983 | -80 | -2,0% | -0,97 |
| 22 | ГЗЛіН | 4422 | 3810 | -612 | -16,1% | 0,02 |
| 23 | Светлагорскхімвалакно | 4120 | 3746 | -374 | -10,0% | 0,01 |
| 24 | Гроднажылбуд | 3618 | 3694 | +76 | +2,1% | 0,61 |
| 25 | Гомельпрамбуд | 3831 | 3670 | -161 | -4,4% | -0,08 |
| 26 | Краснасельскбудматэрыялы | 3993 | 3616 | -377 | -10,4% | -5,39 |
| 27 | Полацкшкловалакно | 3647 | 3568 | -79 | -2,2% | 0,26 |
| 28 | Крычаўцэментнашыфер | 3479 | 3556 | +77 | +2,2% | -2,43 |
| 29 | Слуцкі сыраробны камбінат | 3778 | 3545 | -233 | -6,6% | 0,43 |
| 30 | Мінскі электратэхнічны завод імя Казлова | 3525 | 3375 | -150 | -4,4% | 0,59 |
| 31 | Смалявічы Бройлер | 3172 | 3304 | +132 | +4,0% | 5,81 |
| 32 | Птушкафабрыка «Дружба» | 3129 | 3122 | -7 | -0,2% | 0,04 |
| 33 | Будаўнічы трэст №3 | 3419 | 3105 | -314 | -10,1% | 0,30 |
| 34 | Бабруйскі завод трактарных дэталяў і агрэгатаў | 3182 | 3098 | -84 | -2,7% | 0,06 |
| 35 | Гомельхлебпрам | 3109 | 3071 | -38 | -1,2% | 0,20 |
| 36 | Агракамбінат «Дзяржынскі» | 3048 | 3029 | -19 | -0,6% | 2,44 |
| 37 | Магілёўаблаўтатранс | 3009 | 3023 | +14 | +0,5% | -0,63 |
| 38 | Гомельскі ДБК | 3162 | 3022 | -140 | -4,6% | 1,66 |
| 39 | Віцебская бройлерная птушкафабрыка | 3018 | 2961 | -57 | -1,9% | -1,43 |

## Мясніковіч заклікае браць падатак з закупаў у інтэрнэт-крамах

Нацбанк запытаўся ў банкаў, **як гэта можна рэалізаваць**.

Старшыня савета рэспублікі Міхаіл Мясніковіч выступіў з ініцыятывай: спаганяць падатак на даданую вартасць (20%) з пасылак, якія прыходзяць беларусам з-за мяжы.

«Летась у Беларусь прыйшло 6,5 мільёна пасылак з таварнымі ўкладаннямі. За пяць месяцаў гэтага года паступіла ўжо амаль 5 мільёнаў пасылак, — заявіў Міхаіл Мясніковіч. — Прычым гэтыя пасылкі прыходзяць з замежжа не толькі для асабістага карыстання фізічнай асобы, але там утрымліваюцца цэлыя партыі тавараў, якія потым прадаюцца на рынках, у іншых месцах».

Некалькі месяцаў таму ўзяцца за пакупкі ў замежных інтэрнэт-крамах збіраўся і міністр гандлю Валянцін Чаканаў.

На наступны дзень пасля заявы Мясніковіча Нацбанк разаслаў па банках ліст з просьбай прадаставіць прапановы «аб магчымасці і мэтазгоднасці» спагнання збору пры аплаце ў інтэрнэце.

«Пры разглядзе гэтага пытання ўзяць пад ўвагу такія аспекты, як наяўнасць у банка магчымасці раздзялення плацяжоў у інтэрнэце па іх відах; спосабы аплаты ў інтэрнэце, якія прымяняюцца ў цяперашні час кліентам; міжнародную практыку выкарыстання дадатковых збораў і абмежаванняў пры набыцці тавараў у інтэрнэце і г.д.», — гаворыцца ў лісце за подпісам першага намесніка старшыні праўлення Нацбанка Тараса Надольнага.

Паводле інфармацыі Tut.by, банкаўская супольнасць адказала, што такой тэхнічнай магчымасці няма

**ЯМ**

Максімальны кошт пасылкі, якую можна атрымліваць без выплаты мытаў, — 200 еўра. Колькасць пасылак неабмежавана.

## Прамысловасць будуць ратаваць сакрэтнымі ўказамі

Аляксандр Лукашэнка падпісаў шэраг указаў аб стабілізацыі фінансавага становішча буйных прамысловых прадпрыемстваў.

У прыватнасці, Мінскаму трактарнаму заводу дазволілі выпусціць аблігацыі на $150 мільёнаў. Таксама прадпрыемства атрымала растэрміноўку на выплату ўтворанай запазычанасці па ПДВ (каля $4 мільёнаў).

Іншы ўказ датычыўся «Гомсельмаша». Гэты холдынг выпусціць аблігацыі на суму $425,8 мільёна, якія павінны выкупіць камерцыйныя банкі. Апроч таго, прадпрыемствы атрымаюць бюджэтныя пазыкі ў далярах пад 7% гадавых. Грошы давядзецца вяртаць да 2022 года.

Акрамя названых дакументаў, Аляксандр Лукашэнка таксама падпісаў указ №284, які мае напалову сакрэтны характар і прадугледжвае меры, скіраваныя на «стабілізацыю фінансава-эканамічнага стану асобных прамысловых арганізацый». Восем пунктаў указа маюць грыф «для службовага карыстання».

У адкрытым варыянце гэтага дакумента прадугледжваецца павелічэнне ўнутранай дзяржпазыкі Беларусі.

**ЯМ**



**За май 2015 года ў Беларусі не выпусцілі ніводнага (!) камбайна. Пры гэтым складскія запасы выраслі са 179 да 184 камбайнаў. Магчыма, на заводы вярнуўся нерэалізаваны тавар. На фота: камбайн «Палессе GS16» ад «Гомсельмаша».**

У першым квартале 2015 года «Гомсельмаш» і МТЗ атрымалі велізарныя чыстыя страты — $19,5 мільёна і $16 мільёнаў адпаведна. Горшай сітуацыя была толькі ў збанкрутаваным «Дэльта банку», а таксама ў «Брэстэнерга» і на МАЗе.

## Сцісла

### Беларусь перайшла на чыпавыя карткі

З 1 ліпеня ўсе банкі абавязаны выпускаць толькі чыпавыя карткі. Патрабаванне датычыцца картак сістэм *Visa* і *MasterCard*. «Белкарт» можа па-ранейшаму заставацца толькі з магнітнай паласой.

### Нафта каля $57

Кошт нафты маркі *Brent* упершыню з красавіка апусціўся ніжэй за $57 за барэль. Мяркуецца, цэны падаюць на фоне перамоваў пра будучыню ядзернай праграмы Ірана. Дзяржсакратар ЗША Джон Керы заявіў, што бакі дасягнулі істотнага прагрэсу.

### Самая танная кватэра — $33 тысячы

Цэны на нерухомасць у Мінску працягваюць зніжацца. Самыя танныя кватэры прадаюць ужо танней за $40 тысяч, ёсць і адзінкавая аб'ява маласямейкі за $33 тысячы. Сярэдняя цана прапановы квадратнага метра апусцілася ніжэй за $1480, рэальны кошт угодаў складае каля $1380.

### Саудаўскі прынц раздасць $32 мільярды

Прынц аль-Валід, які займае 22-е месца ў спісе самых багатых людзей у свеце па версіі часопіса *Forbes*, пералічыць на дабрачыннасць усё сваё багацце. У першую чаргу ён дапаможа дабрачынным таварыствам, якія змагаюцца за правы жанчын, а таксама спансуюць вывучэнне невылечных хвароб, дапамагаюць ахвярам стыхійных бедстваў і папулярызуюць здаровы лад жыцця.

### Названыя найлепшыя раёны для вядзення бізнэсу

У штогадовым конкурсе саюзаў прадпрымальнікаў перамаглі Камянецкі і Чэрвеньскі раёны сярод малых рэгіёнаў, а Ваўкавыскі і Аршанскі — сярод вялікіх.

**ЯМ**

# Пяць фактаў пра Станіслава Зася

Нечакана змяніўся дзяржсакратар Рады бяспекі.

Былы кіраўнік Рады бяспекі Аляксандр Мяжуеў быў адпраўлены ў адстаўку з дзіўнай фармулёўкай — «у сувязі са складанымі сямейнымі абставінамі». Гэтак адразу і не ўзгадаеш, ці звальнялі раней высокіх чыноўнікаў па такой прычыне. Мяжуеў прабыў на гэтай пасадзе 1,5 года. На яго месца пакуль прызначаны выканаўцам абавязкаў Станіслаў Зась. Цяжка сказаць, ці гэта часовы чалавек, ці ўсё ж на больш працяглы тэрмін.


ГАЗЕТА «ВО СЛАВУ РОДИНЫ»

## 1. Пераскочыў праз першага намесніка

Станіславу Засю 51 год. Ён генерал-маёр. Нарадзіўся ў Чарнігаўскай вобласці Украіны. У 1985 годзе скончыў Бакінскае вышэйшае агульнавайсковае каманднае вучылішча, у 1996 з залатым медалём — Вайсковую акадэмію Беларусі, а ў 2005 таксама з залатым медалём — Вайсковую акадэмію Генеральнага штаба Расіі. Кандыдат вайсковых навук.

Праходзіў службу і працаваў ва Узброеных сілах, МУС, КДБ, Памежных войсках. Быў начальнікам аддзела вайсковага будаўніцтва галоўнага аператыўнага ўпраўлення Генеральнага штаба Узброеных сіл Беларусі. Ад 2008 года працаваў намеснікам Дзяржаўнага сакратара Рады бяспекі.

Адметна, што першым намеснікам дзяржсакратара Рады бяспекі з'яўляецца былы кіраўнік службы аховы Лукашэнкі Андрэй Уцюрын, але выбар кіраўніка дзяржавы паў не на яго.

## 2. Засцерагаў ад амерыканскага ладу жыцця

Летась Станіслаў Зась апублікаваў у часопісе «Беларуская думка» праграмны артыкул «Супрацьстаянне ў сферы сэнсаў у глабальным кантэксце XXI стагоддзя».

Аўтар лічыць, што ў «ракетнай-ядзернай» сферы свет з'яўляецца біпалярным — ЗША і Расія. У сферы эканомікі ёсць некалькі цэнтраў — ЗША, ЕС, Японія, Кітай. А вось у інфармацыйнай сферы «свет усё больш набывае рысы аднапалярнага са спробамі навязаць краінам заходнюю (амерыканскую) культуру, мараль, лад жыцця».

## 3. Паставіў у адзін шэраг Анатоля Тараса і «Спутнік і пагром»

Станіслаў Зась правёў дэтальны разбор кніг папулярызатара беларускай гісторыі Анатоля Тараса. На думку чыноўніка, яны не вытрымліваюць ніякай крытыкі. Зась наўпрост абвінавачвае Тараса ў «нянавісці да беларускага народа». Зась папракае Тараса тым, што яго бацька працаваў у Беларускім штабе партызанскага руху, «а сын публічна называе партызанаў злачынцамі».

Як прыклад удалага супрацьстаяння маніпуляцыям гісторыі чыноўнік прыводзіць публікацыю Вадзіма Гігіна «Казкі Крапівенскага поля», якая паказвае «штучную істэрыю вакол бітвы 500-гадовай даўніны пад Оршай».

Зрэшты, на арэхі дасталося не толькі Тарасу, але і шавіністычным расійскім сайтам накшталт «Спутніка і пагрома». На думку Зася, Тараса і «Спутнік і пагром» аб'ядноўвае «генераванне нянавісці да кіраўніцтва краіны і асабіста да кіраўніка дзяржавы».

## 4. Часта ездзіў у Нью-Ёрк

Станіслаў Зась неаднаразова ўдзельнічаў і ўзначальваў беларускую дэлегацыю падчас канферэнцый кіраўнікоў абаронных ведамстваў пад эгідай ААН, штаб-кватэра якой знаходзіцца ў логаве «амерыканскай маралі». Напрыклад, менавіта Зась курыраваў пытанне накіравання беларускіх міратворцаў (медыкаў і афіцэраў) у Ліван.

## 5. Рабіў кампліменты Лукашэнку

«Калі ў нашых афіцэраў будзе фізічная падрыхтоўка на такім жа ўзроўні, як у галоўнакамандуючага, то гэта будзе вельмі добра. Здаровы лад жыцця, які дэманструе наш прэзідэнт, вядома, знаходзіць павагу ў афіцэраў і можа быць прадметам пераймання», — сказаў Зась у інтэрв'ю тэлеканалу «Беларусь-1» у красавіку сёлета.

**Зміцер Панкавец**

# Новы міністр прыродных рэсурсаў Андрэй Каўхута — беларускамоўны геолаг

Гэта пасада была вакантнай ад снежня мінулага года, калі ў адстаўку адправілі Уладзіміра Цалко.

Новым міністрам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя стаў 54-гадовы Андрэй Каўхута, які да гэтага часу ўзначальваў РУП «Навукова-вытворчы цэнтр па геалогіі» пры міністэрстве.

Андрэй Каўхута нарадзіўся ў лістападзе 1960 года ў Магілёве. Скончыў БДУ (1983). Ад 1983 да 2004 года працаваў Інстытуце геалогіі Акадэміі навук Беларусі. Пасля перайшоў на працу ў Міністэрства прыроды і аховы навакольнага асяроддзя.

Мы патэлефанавалі акадэміку Радзіму Гарэцкаму, каб ён даў характарыстыку свайму калегу.

«Андрэй — гэта мой вучань, — адразу кажа Радзім Гаўрылавіч. — Вельмі энергічны чалавек, добра гаворыць. Мне здаецца, што ягоная кандыдатура цалкам пасуе на ролю міністра. Ён кандыдат навук, цяпер піша доктарскую. Мог бы і раней абараніцца, але чынавенскія справы крыху адцягвалі ўвагу. Тэма ягонай доктарскай «Асадачныя басейны Беларусі».


WILDLIFE.BY

Сам Андрэй Каўхута з інтэлігентнай сям'і. Ягоная маці (бацькі ўжо памерлі) была літаратуразнаўцай, а бацька Марлен Каўхута — таксама геолагам, працаваў у Акадэміі навук, выкладаў у Мінскім педуніверсітэце.

А ці прыязна новы міністр ставіцца да беларускай мовы? «Ён вельмі добра гаворыць па-беларуску. Нават калі мы разам выкладалі на геафаку БДУ, то Андрэй Каўхута чытаў лекцыі па «Геатэктоніцы» і «Структурнай геалогіі» на беларускай мове», — расказвае Радзім Гарэцкі.

Добрыя ўспаміны пра колішняга выкладчыка захаваў і сустаршыня хрысціянскіх дэмакратаў, выпускнік геафака Павел Севярынец. «Чалавек шчыры, глыбока беларускі. Калі ён толькі пачынаў выкладаць, то адчувалася, што ягоная беларуская мова даволі кніжная. Але ён удасканальваў яе і ўпарта працягваў чытаць складаную тэхнічную дысцыпліну па-беларуску. Гэта валявы і адкрыты чалавек», — кажа Севярынец.

Праўда, пытанне, ці будзе Каўхута выкарыстоўваць беларускую мову і на высокай дзяржаўнай пасадзе.

**ЗП**

# Шчоткіна: Якія дзве работы? Я так не казала

Міністр працы і сацыяльнай абароны Беларусі Марыяна Шчоткіна адмовілася каментаваць журналістам свае выказванні аб неабходнасці беларусам «круціцца» на дзвюх працах.

«Якія дзве працы? Я так не казала. Прачытайце ўважліва, што я сказала, а не тое, што пісалі суб'ектыўныя журналісты», — заявіла яна 30 чэрвеня ў палаце прадстаўнікоў.

На пытанне, ці бачыла яна рэакцыю беларусаў на свае выказванні, Шчоткіна адказала: «Ну і што? Я сказала тое, што сказала. Тое, што там неяк перавярнулі суб'ектыўна, гэта ўжо падыход журналістаў».

Нагадаем, як паведамляла дзяржаўнага агенцтва БелТА, 18 чэрвеня ў час наведвання Гродзенскай абутковай фабрыкі «Нёман» Шчоткіна заявіла: «Умовы, якія сёння ёсць, схіляюць сям'ю да таго, каб нараджаць больш дзяцей, калі гэта, вядома, запланавана. Таму што нараджэнне дзяцей дзеля дапамогі або кватэры недапушчальна, вядома ж. Але калі людзі прымаюць рашэнне аб тым, што ў іх будзе двое-трое дзяцей або больш, яны разумеюць таксама, што ім трэба, што называецца, «круціцца». Для таго, каб зарабіць, сёння ёсць магчымасці. Мы паглядзелі, што амаль 93% беларусаў працуюць толькі на адной працы, а гэта і мужчыны. Але калі мама займаецца дома дзецьмі, дык хай тата «пакруціцца». ... Сёння беларусам трэба праяўляць большую актыўнасць, каб павысіць свой дабрабыт».

Журналісты пацікавіліся ў Шчоткінай, на колькіх працах «круціцца» яе муж, аднак на гэтае пытанне міністр працы і сацыяльнай абароны таксама не адказала.

**БелаПАН**



**Цытата**

## Былы гендырэктар «Барысаўдрэва» Уладзімір Мальцаў: Я больш не наіўны хлапчук

2 ліпеня а 16-й з магілёўскай калоніі ВК-15 па амністыі вызваліўся былы генеральны дырэктар ААТ «Барысаўдрэў» Уладзімір Мальцаў.



«Цяпер я не буду тым наіўным хлапчуком, які намагаецца зрабіць для людзей, дзяржавы нешта добрае. Я буду чалавекам, які стане, перш за ўсё, надаваць час сям'і, дзецям. Добрасумленнае стаўленне да працы застанецца, па-іншаму не магу, але праца не будзе на першым месцы. Не буду праяўляць імкнення, ініцыятыву, якія былі да ўсяго гэтага. Калі я знаходзіўся ў турме, мне прапаноўвалі працу. Скажу так: гэтыя людзі цяпер знаходзяцца за межамі Беларусі і клічуць да сябе працаваць. Ведаю адно: без працы не застануся», — сказаў Мальцаў у інтэрв'ю інтэрнэт-выданню *naviny.by* у дзень вызвалення.

# Лябедзька: Трэба моцна біць у звaны, каб разбудзіць людзей



Старшыня АГП Анатоль Лябедзька пацвердзіў свой удзел у прэзідэнцкіх выбарах.

«Калі казаць пра настрой, з якім падыходзім да пачатку выбарчай кампаніі, то нельга сказаць, што ён святочны. На вялікі жаль, я канстатую праблему. І яна нават не ў тым, што большасць палітычных суб'ектаў і грамадзянскіх ініцыятываў адмовіліся ад актыўнай палітычнай працы, а некаторыя нават спрабуюць інтэгравацца ў існуючую сістэму. Праблема ў тым, што шараговы грамадзянін Беларусі трымаецца стратэгіі чакання. Людзі чакаюць. Яны ведаюць, што краіна хворая, што дыягназ у эканоміцы — гэта ракавая пухліна, але глядзяць на яе і думаюць, што яна сама рассмокчацца. Настрой, які ёсць у грамадстве, такі, што трэба моцна біць у званы, каб разбудзіць людзей. А гэта даецца вельмі і вельмі цяжка. Таму я разумею адказнасць, якая кладзецца на нас, тых, хто ідзе на выбары ў стане вялікай апатыі грамадства. На жаль, людзі канстатуюць, што трэба нешта рабіць, але самі рабіць нічога не хочуць. Гэта вельмі складана, але ніхто не абяцаў нам лёгкага жыцця», — заявіў Лябедзька ў інтэрв'ю радыё «Свабода».

27 чэрвеня Лябедзьку споўнілася 54 гады. Лябедзька нарадзіўся ў 1961 годзе ў сялянскай сям'і на Стаўпеччыне. У палітыку ён прыйшоў, калі на выбарах 1990 года быў абраны ў Вярхоўны Савет.

Пасля спаўзання краіны да дыктатуры ён стаў у апазіцыю да рэжыму. Прайшоў праз турму і напады, у тым ліку праз турму КДБ пасля выбараў 2010 года.

**Сяргей Гезгала**

# Таццяна Караткевіч: «Трэба паважаць пачуцці камуністаў»

На мінулым тыдні ў Гродне адбылася сустрэча з **імавернай кандыдаткай** на пасаду прэзідэнта ад «Гавары праўду» Таццянай Караткевіч.

На сустрэчы прагучала пытанне пра дэкамунізацыю краіны, зноў актуальнае пасля падзеяў ва Украіне.

«Трэба паважаць усе этапы гісторыі, — лічыць Караткевіч, — не трэба нічога выкрэсліваць. Бо ёсць людзі, якія і гэта [камунізм — **«НН»**] паважаюць, яны маюць свае пачуцці. А перайменаванне вуліц — не такая танная справа. Таму ў Менску кампанія «Гавары праўду» змагалася менавіта за перайменаванне Ульянаўскай — там дамоў мала. Я жыву на вуліцы імя чырвонаармейца Асаналіева і цешуся, што ведаю, хто гэта такі».

Ужо напрыканцы прагучала пытанне, маўляў, ці пагадзілася б прэтэндэнт на кандыдата ў прэзідэнты Караткевіч заняць месца ў міністэрстве ці ў прэзідэнцкай адміністрацыі ўзамен на зняцце кандыдатуры, калі б атрымала падобную прапанову.

«Пагадзілася б, бо гэта цалкам укладаецца ў ідэю «Народнага рэферэндуму» пра мірныя перамены», — адказала Таццяна.

Усяго на сустрэчы прысутнічала некалькі дзясяткаў гарадзенцаў.

**Belsat.eu**




У Мінску з'явіліся плакаты Таццяны Караткевіч «Хай вашае жыццё будзе як у тэлевізары».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Алена Анісім не будзе вылучацца ў якасці кандыдата

Намесніца старшыні Таварыства беларускай мовы Алена Анісім прыняла рашэнне спыніць удзел у кампаніі па вылучэнні кандыдатуры на пасаду прэзідэнта. Пра гэта яна паведаміла падчас прэс-канферэнцыі.

«Я разумею, што ў дадзенай сітуацыі перамогу атрымаць немагчыма, а я звыкла дасягаць поспеху ў любой справе, за якую бяруся», — сказала Анісім.

Кіраўнік штаба, старшыня ТБМ Алег Трусаў, сказаў, што без адзінага кандыдата ад апазіцыі наменклатуру перамагчы немагчыма.

На пытанне, ці будзе Анісім падтрымліваць кагосьці з патэнцыйных кандыдатаў, яна адказала, што па дапамогу ў каардынацыі намаганняў пакуль ніхто не звяртаўся, таму казаць пра гэта рана. Аднак спыняць працу ініцыятыўная група не збіраецца: ужо ў верасні адбудзецца наступная сесія Кангрэсу за незалежнасць.

**ЗП**

## Цытаты



**«Гэта бедная, жабрацкая цэнтральнаеўрапейская невялікая дзяржава, і яны яшчэ дагэтуль жывуць»**

«Мы камусьці як костка ў горле. Вось гэта бедная, жабрацкая цэнтральнаеўрапейская невялікая дзяржава, і яны, аказваецца, яшчэ да гэтага часу жывуць», — сказаў Аляксандр Лукашэнка ў часе сваёй прамовы на ўрачыстым сходзе з нагоды 3 Ліпеня. Так ён іранізаваў з уяўных непрыяцеляў Беларусі, якія зычаць нашай краіне зла.



**Саннікаў: Байкот — і ўсё**

Адзін з кіраўнікоў кампаніі «Еўрапейская Беларусь», Андрэй Саннікаў, заявіў, што байкот выбарчай кампаніі — адзіны сцэнар, які адпавядае настроям у беларускім грамадстве.

«Відавочна, што пазіцыя па выбарах у нас можа быць толькі адна — байкот і патрабаванне свабоды палітычным вязням, у першую чаргу Міколу Статкевічу. Байкот — і ўсё. А актыўны ці пасіўны — хай кожны выбера сам для сябе. Мы лічым, што людзі не пойдуць на выбары, таму агучваем пазіцыю згодна з настроем у грамадстве. Пацвярджэнне гэтаму было зафіксавана падчас так званых парламенцкіх выбараў 2012 года», — заявіў радыё «Свабода» Андрэй Саннікаў.

# Аляксандр Казулін: Які ўдзел у выбарах, калі выбараў няма?

Былы рэктар БДУ, палітвязень Аляксандр Казулін **не плануе** ўдзелу ў прэзідэнцкай кампаніі.

«Ведаеце, я прыхільнік мэтазгоднасці. Які можа быць удзел у выбарах, калі выбараў няма? Тыя людзі, якія ўсё ж уцягваюцца ў кампанію, могуць пераследаваць самыя розныя мэты, можа, нехта хоча матэрыяльна забяспечыць сабе на бліжэйшыя пяць гадоў ці ўпісаць сваё імя ў гісторыі. Але дасягнуць палітычнага выніку сёння немагчыма», — кажа Аляксандр Казулін.

Паводле яговых словаў, да яго звярталіся з прапановай увайсці ў каманду некаторых патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты, але на ўсе такія просьбы Казулін адказвае адмовай.



АНТОН СУРАПІН, BNP.BY

«Мне здаецца, што апазіцыя казала, што не будзе ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, калі за кратамі знаходзіцца хоць адзін палітвязень, а тут у турме застаецца цэлы кандыдат у прэзідэнты. Дык пра што можна гаварыць?» — задае рытарычнае пытанне былы палітвязень.

Што тычыцца стварэння ініцыятыўнай групы па вылучэнні Мікалая Статкевіча, то ў цэлым Казулін ставіцца да гэтага пазітыўна: «Любая маральная падтрымка з волі важная ў такой сітуацыі».

**Зміцер Панкавец**

## Выбары-2015: кароткі каляндар

**Рэгістрацыя кандыдатаў** на пасаду прэзідэнта Беларусі павінна завяршыцца **не пазней за 15 верасня**, паведаміла старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына на пасяджэнні палаты прадстаўнікоў.

**Рэгістрацыя ініцыятыўных груп** па зборы подпісаў для вылучэння кандыдатаў павінна скончыцца **не пазней за 22 ліпеня**.

**Збор подпісаў** будзе працягвацца **з 23 ліпеня па 21 жніўня**.

Таксама **не пазней за 22 ліпеня** будуць створаны **тэрытарыяльныя выбаркамы**, а да 26 жніўня — участковыя.

**З 22 жніўня па 5 верасня** трэба будзе падаць у ЦВК **дакументы на рэгістрацыю** кандыдатаў.

**Не пазней за 5 верасня** абласныя і Мінская гарадская камісіі **падвядуць вынікі збору подпісаў** па кожнай кандыдатуры на сваіх тэрыторыях і перададуць гэтыя вынікі ў Цэнтрвыбаркам.

**Датэрміновае галасаванне** пройдзе **з 6 па 10 кастрычніка**.

Выбары пройдуць **11 кастрычніка**.

# Амерыканская настаўніца атрымала 22 гады турмы за сэкс з вучнямі

Джэніфер Фіхтэр, 30-гадовая настаўніца англійскай мовы з Фларыды, асуджаная за 37 выпадкаў палавых зносін з трыма вучнямі ўзростам 17 гадоў.

Пракурор патрабаваў даць ёй 25 гадоў, кожны выпадак паасобку прадугледжваў пакаранне да 15 гадоў. Суддзя назваў жанчыну «драпежніцай».

Ад 2011 да 2014 года яна мела тое, што называла «рамантычнымі адносінамі», з непаўналетнімі вучнямі і не думала пра наступствы для іх і для сябе. Бацькам аднаго з хлопцаў яна прызналася, што кахала яго. Адзін з выпадкаў прывёў да цяжарнасці Фіхтэр, яна рабіла аборт.

Яшчэ ў 2008 годзе Фіхтэр была звольненая са школы ў іншай акрузе за неналежныя паводзіны з васьмікласнікам.

З першай ахвярай яна пазнаёмілася ў верасні 2011 года. На той момант хлопцу было 17 гадоў. Жанчына запрасіла яго да сябе дадому, дзе пара глядзела тэлевізар і абдымалася. У кастрычніку адносіны дайшлі да сэксу (20 выпадкаў за сем месяцаў толькі з адным хлопцам).

Ужо ў лістападзе таго ж года ў яе з'явіўся новы аб'ект «рамантычных адносін» — стасункі пачаліся з пагладжвання нагі ў камп'ютарным класе. Маці гэтага хлопца, які стаў загульваць дапазна і хлусіць пра сваё месцазнаходжанне, выкрыла ў студзені 2014 года перапіску сына з дзвюма жанчынамі пад рознымі імёнамі, у перапісцы абмяркоўвалася розніца ва ўзросце. Як распавёў хлопец, за абодвума фальшывымі імёнамі хавалася Фіхтэр.

Падрабязнасці адносна трэцяй ахвяры не раскрываюцца.

Пракуроры заяўлялі, што Фіхтэр нельга рабіць палёгку толькі за тое, што яна жанчына. «Калі б мужчына апынуўся тут і сказаў бы, што гадамі меў сэкс з непаўнагадовымі вучаніцамі, бо гэта падвышала яго самаацэнку, яго б закапалі пад турмой», — даводзіў пракурор суддзі.

Фіхтэр прызнала сваю віну і пакаялася, яна казала аб тым, што «хацела б вярнуцца назад у часе і змяніць тое, што нарабіла». Але паведамляецца, што Фіхтэр адхіліла ўгоду з канцылярыяй пракурора, што магло б змякчыць прысуд.

**Аляксандр Арсёнаў**



Узрост сэксуальнай згоды ў розных штатах ЗША вагаецца ад 16 да 18 гадоў.



## Дар'я Домрачава захварэла на монануклеоз

Пра гэта біятланістка паведаміла ў інстаграме. Яна перадала прывітанне фанатам і папрасіла не перажываць за яе, бо вострыя перыяд хваробы ўжо прайшоў.

Монануклеоз — гэта вострае віруснае захворванне, якое не мае спецыфічнага лячэння. Гэта моцная хвароба, якая б'е па імунітэце. На працягу 1—1,5 месяца з-за рызыкі разрыву касы рэкамендуецца абмежаваць фізічныя нагрузкі. Гэта значыць, што Дар'і на нейкі час прыйдзецца спыніць трэніроўкі.

**АГ**

## Пісьменніцы Людміле Рублеўскай споўнілася 50 гадоў

Людміла Рублеўская нарадзілася ў Мінску 5 ліпеня 1965 года. Скончыла філфак БДУ. Працавала ў газеце «Наша слова», часопісе «Першацвет», тыднёвіку «Літаратура і мастацтва».

Кіруе суполкай маладых творцаў «Літаратурнае прадмесце». Лаўрэат прэміі часопіса «Дзеяслоў» «Залаты апостраф» за паралельны раман «Золата забытых магілаў», дзеянне ў якім адбываецца ў часы паўстання Кастуся Каліноўскага і ў нашым часе.

Выдала амаль два дзясяткі кніг у розных жанрах: паэзія, проза, драматычныя творы, эсэ, крытыка, творы для дзяцей.



**Віншаванні на nn.by.**

Памятаю Людмілін пачатак (1985 год) як зусім не благой рускамоўнай паэткі і рады, што яна здзейснілася як таленавіты беларускамоўны празаік. Мае віншаванні!

**Лявон Баршчэўскі**

Вялікі дзякуй, Люда, за твой уклад у беларускасць! Творчых табе поспехаў і ўвогуле ўдачы ва ўсім!

**Юрый Станкевіч**

Вельмі віншую шаноўную спадарыню Людмілу! Люблю яе творы і лічу адным з найлепшых беларускіх пісьменнікаў. Здароўя вам, доўгіх гадоў жыцця, радасці і новых цікавых твораў.

**Людміла Літвінава**

## У Цэнтральнай кнігарні прадаюць магніты з выявай Сталіна

Чытач заклікае неабыякавых **пісаць заўвагі** ў кнігу скаргаў.

У Цэнтральнай кнігарні, якая знаходзіцца па адрасе г. Мінск, пр. Незалежнасці, 19, сярод сувенірнай прадукцыі прадаюцца магніцікі з выявай Сталіна.

Кожны беларус ведае, што колькасць ахвяр сталінскіх рэпрэсій вылічваецца мільёнамі. У тым ліку ў Беларусі было рэпрэсавана 600 000 чалавек. Сам факт продажу прадметаў, якія праслаўляюць асобу Сталіна, абсалютна амаральны.

Мы звярталіся з гэтым да кіраўніцтва крамы, а яны патлумачылі факт наяўнасці дадзеных сувеніраў тым, што яны «карыстаюцца папулярнасцю ў іншаземцаў», «гэта наша гісторыя» і «нас здзіўляе, што вы выказваеце сваю незадаволенасць».

Хацелася б заклікаць неабыякавых да гэтага выпадку людзей прыходзіць у краму і выказваць сваю незадаволенасць, пісаць заўвагі ў кнігу скаргаў і прапаноў да таго часу, пакуль сувеніры з выявай Сталіна не будуць выключаныя з продажу.

**Алесь З.**



Меркаванне

## Што найперш: закон ці мараль?

Піша **Стась Карпаў**.



Наконт трох пацаноў, якіх ашчаслівіла амерыканская настаўніца, і дваццацідвушачкі турэмнага зняволення. Не буду казаць пра тое, што пакаранне несувымернае злачынству, наогул пазбаўленне сперматаксікозу трох пубертатных — гэта не пагроза тканіне свету. Пра гэта сто разоў напісана. Буду пра тое, што стала адным з асноўных аргументаў за слушнасць прысуду — тое, што там, на недасягальным для нас Захадзе, дзе «бруяцца срэбрам рэкі», дзе талерантнасць лепшая за нашу, а пра памяркоўнасць наогул нічога не чулі — там закон мае сапраўдную сілу. Там закон для ўсіх, бо ён — другі бок права. Ах.

І раз баба па сукупнасці павінна атрымаць дваццаць два гады, то аёй, канечне, як многа, але «сама вінаватая». Дык вось гэтая думка — фігня, калі каротка.

А калі крыху падрабязней, то вера ў тое, што закон — нейкая богам дадзеная канстанта, якая не патрабуе асэнсавання ці прынамсі неабавязковая для асэнсавання кожныя пяць хвілін, як цеплыня сонца ці мокрасць вады, — гэта, на мой погляд, траўма, народжаная на стыку хрысціянскага фанатызму і савецкага таталітарнага пратакольнага фармалізму.

Закон — гэта насамрэч кадыфікацыя маралі, шляхам яе спрашчэння і ўніфікацыі. Не амаральнасці, а маралі, то бок не чалавеканенавісніцтва са спальваннем вядзьмарак і апалагеткі ўсеагульнай віны, а гуманістычнай антрапацэнтрычнай плыні.

Менавіта таму інквізіцыя была абвешчаная незаконнай на хвалі свецкага гуманізму, менавіта таму спачатку свецкі, адукаваны, гуманны чалавек вырашыў, што жанчыну/негра/і г.д. нельга абмяжоўваць у правах, а пасля гэта было зафіксавана ў законе. У свецкім, канечне, бо закон царкоўны па-ранейшаму ўпіраецца дзвюма нагамі і тыкае пальцам то ў неабходнасць насіць хіджаб, то ў неабходнасць лячыць гамасекаў, то ў неабходнасць двушачкі за танцы ў храме.

Дык вось. Калі закон ставіць наперад маралі, а дакладней, калі адмаўляць гуманістычнай свецкай маралі права на сваю асноўную функцыю — дэфармацыю закона, то пачнецца рух у адваротным кірунку. Туды, дзе з раскрытымі абдымкамі вас чакае зморaны ў безнадзейнай спробе дагнаць XXI стагоддзе стары Саванарола.



# Чаму жанчыны жывуць даўжэй за мужчын

Найперш **кіньце курыць**.

Цяпер жанчыны жывуць у сярэднім значна даўжэй за мужчын па ўсім свеце. Напрыклад, на 2014 год у Беларусі чаканая працягласць жыцця складала для жанчын 78,4 года, для мужчын — 67,8 года. Але так было не заўсёды, сцвярджаюць даследчыкі ў часопісе *Proceedings of the National Academy of Sciences*.

Да пачатку XX стагоддзя разрыву ў працягласці жыцця між мужчынамі і жанчынамі не было. Але не прагрэс у эканоміцы і ахове здароўя стаў забіваць мужчын — справа ў сардэчна-сасудзістых захворваннях і курэнні.

Амерыканскія дэмографы прааналізавалі звесткі 1800—1935 гадоў па 13 развітых краінах Еўропы і Амерыкі. У пачатку мінулага стагоддзя смяротнасць усіх груп людзей рэзка ўпала, але і з'явіўся разрыў у працягласці жыцця мужчын і жанчын. Асноўны ўнёсак у розніцу ў працягласці жыцця робяць людзі ўзростам 50—70 год.

Найбольш на мужчынскую смяротнасць уплывалі захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы, жанчыны значна радзей церпяць ад такіх хвароб у старасці (у 1920-х у 1,5 раза радзей, сёння ў 3,5 раза). Таксама адным з галоўных фактараў смяротнасці з 1900 па 1935 год было курэнне: ад яго з'явілася 30% «дадатковых» смерцяў.

Матэрыяльна падвышэнне агульнага ўзроўню здароўя ў развітых краінах і перамога над інфекцыйнымі захворваннямі прывялі да з'яўлення цяперашняга разрыву ў працягласці жыцця між мужчынамі і жанчынамі. Падобна, што справа не толькі і не столькі ў біялагічнай розніцы мужчын і жанчын, а ў ладзе жыцця — харчаванні, фізічных нагрузках, фізкультуры, а таксама алкаголі і курэнні.

Дарэчы, беларусы рана пачынаюць скарачаць сваё жыццё: мы ў лідарах па колькасці падлеткаў-курыльшчыкаў (сцвярджаецца, што кураць больш за 65% студэнтаў і школьнікаў), не радасная сітуацыя і з алкаголем ды наркотыкамі.

**АА**

# Вядучым «Контураў» стаў расіянін, аўтар канспіралагічных фільмаў пра даляр

**По выніках кастынгу на тэлеканале АНТ абраны новы вядучы праграмы «Контуры». Ім стаў 44-гадовы расеец Ілля Коласаў.**

Ён змагаўся за месца з Вікторыяй Язерскай (вядучая БТ, якая ў крызіс з'ехала працаваць на расійскі «Лайфньюз», а пасля вярнулася ў Беларусь) і адным з топ-менеджараў АНТ Русланам Паддубскім.

Апошнім часам Коласаў працаваў шэфам еўрапейскага бюро расейскамоўнага міжнароднага тэлеканала RTVi і жыў у Берліне.

Пасля заканчэння Санкт-Пецярбурскага інстытута кіно і тэлебачання па спецыяльнасці «гукарэжысёр» (1995) ён працаваў палітычным аглядальнікам на «Радыё Расіі», а ў 2000—2013 — вядучым навіновай праграмы «Падзеі» на расійскім тэлеканале «ТВ Цэнтр».

У 2000-я ягоную праграму на «ТВ Цэнтры» лічылі крытычна настроенай да расійскай улады, аднак з цягам часу ён стаў прыхільнікам жорсткай палітыкі Уладзіміра Пуціна: «Патрэбны той, хто, усвядоміўшы, што нейкі чалавек перашкаджае дасягненню мэтаў, якія стаяць перад краінай, — прыняў бы гэтага чалавека з палітыкі рашуча і жорстка. У гэтым сэнсе я радыкал».

«Я кансерватар у плане жыццёвых каштоўнасцяў. Пры гэтым, чорт вазьмі, радыкал у плане іх дасягнення. Напрыклад, люблю рэвалюцыю. Таму што некаторых людзей, прабачце, прасцей забіць, чым растлумачыць, чаго ад іх хочуць», — перакананы Коласаў.



Тэлевядучы называў сябе прыхільнікам Уга Чавеса: «Проста ён з людзей, якія мне сімпатычныя. Рызыкуючы наклікаць на сябе непрыязнасць людзей, якія б назвалі сябе лібераламі ці дэмакратамі, скажу: асабіста я да Чавеса стаўлюся з пашанай. Таму прывёз сабе з Каракаса бейсболку з профілем венесуэльскага Чэ. Палічыўшы, што ў нас матрыцы каштоўнасцяў супадаюць. Мне гэтаксама сімпатычны Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка».

Коласаў — аўтар канспіралагічных фільмаў «Бе$ценный доллар» і «Бе$ценный доллар — 2» пра амерыканскую валюту, якая несправядліва заняволіла свет.

У інтэрв'ю тэлевядучага часта ўзнікае тэма нетрадыцыйнай сэксуальнай арыентацыі. «Сучасная мода — гэта здзек гомасэксуалістаў з дзяўчын. Таму часу на яе я не марную», — расказваў ён.

Ад першага шлюбу ён мае двух сыноў, яны жывуць у Расіі. У Беларусь Коласаў перабраўся з новай сям'ёй.

**Ягор Марціновіч**



# Іван Ургант таемна абвянчаўся са сваёй каханай

Расійскі тэлевядучы Іван Ургант і яго каханая Наталля Кікнадзэ таемна абвянчаліся. Пра цырымонію, якая прайшла яшчэ ў маі 2015 года, расказала бабуля шоўмена Ніна.

Іван і Наталля абвянчаліся пасля 8 гадоў сумеснага пражывання. Цырымонія прайшла ў Пецярбургу ў Нікольскім саборы.

У пары ёсць агульная дачка Ніна (нарадзілася 15 мая 2008 года), таксама муж і жонка выхоўваюць дачку Кікнадзэ ад першага шлюбу з бізнесменам Вахтангам Куталія Эрыку. Сваё асабістае жыццё Іван Ургант старанна засцерагае ад пабочнага ўмяшання. Толькі зрэдку ён выкладвае фота блізкіх у мікраблогу. Аднак прыхільнікі ведаюць, што малодшая дачка Ніна вельмі падобная да таты, а старэйшая Эрыка — копія прыгажуні мамы.

«Ванечка — вельмі веруючы чалавек, — распавяла бабуля Урганта. — Як толькі ён прыязджае ў Пецярбург, адразу ж ідзе ў Нікольскі сабор. Там у яго свой духоўнік. Унук часта з ім раіцца, спавядаецца і прычашчаецца. Мы перажылі страшную трагедыю ў лютым: памерла мама Ванечкі. Ён моцна гараваў. І жонка Наталля стала для яго сапраўдным суцяшэннем».

Шлюб з Наталляй Кікнадзэ для Урганта стаў другім. Першы раз тэлевядучы ажаніўся ў 18 гадоў, аднак хутка развёўся.

**БелТА**

# Анджаліна Джалі і Брэд Піт разводзяцца

Вядомыя акцёры разам з 2005 года, а доўгачаканае вяселле зорная пара зладзіла толькі 23 жніўня 2014 года. Джалі і Піт з'яўляюцца бацькамі шасцярых дзяцей, толькі трое з іх з'яўляюцца біялагічнымі — дачка Шайла і двайняты Нокс і Вів'ен.

Днямі адразу два выданні, *Hollywood Life* і *In Touch*, апублікавалі словы блізкай да пары крыніцы, якая паведаміла, што разлад здарыўся па віне Джалі: «Брэд будзе першым, хто падасць на развод, таму што ён няшчасны ў гэтым шлюбе. Ён ужо сказаў Энджы, што іх адносіны скончаныя. Ён паскардзіўся, што кантраляваў сябе з самага пачатку іх адносін. І хоць ён быў не супраць таго, што яна часта прымала рашэнні і брала адказнасць на сябе, яму надакучыла, што яна пастаянна кіруе ім. Яна папрасіла яго пачакаць, пакуль усё скончыцца з фільмам «Ля мора». Гэты праект вельмі асабісты, ён шмат значыць для яе. Ён пагадзіўся».



**Сямён Цыбульскі**

# Расіяніна заблакавалі на фэйсбуку за слова «хахлы»

**Ужытае ў пэўным кантэксце, яно парушае правілы сацсеткі.**

Раскамнагляд пацікавіўся ў сацыяльнай сетцы «Фэйсбук» прычынамі блакіроўкі старонкі пісьменніка Эдуарда Багірава, пішуць «Ізвестія». Выявілася, што ён выкарыстоўваў абразлівае слова.

Фармулёўка «няшчасныя хахлы», што была ўжытая ў адным з пастоў пісьменніка, парушае правілы фэйсбука. Акаўнт заблакаваны, бо існавала «рэальная пагроза нанясення фізічнай шкоды ці прамая пагроза грамадскай бяспецы».

Пісьменнік у тым посце параўноўваў расейцаў і ўкраінцаў у іх стаўленні да антысавецкіх арганізацый у час Другой сусветнай.

Багіраў лічыць, што «для рускага пісьменніка, глыбока пагружанага ў рускую літаратуру, слова «хахлы» негатыўнай інтанацыі не нясе».

«Гэта брацкі зварот. Калі мае сябры хахлы называюць мяне кацапам ці маскалём, мне ў галаву не прыйдзе счытваць у гэтым негатыўную інтанацыю, — кажа Багіраў. — Тым больш, як ні круці, хахлы нашыя браты. Мы адзін народ».

**Аляксандр Арсёнаў**

**Кіно**

# Альтэрнатыўны Тэрмінатар

Тэрмінатар: Генэзіс
**Жанр:** фантастыка, баявік
**Рэжысёр:** Алан Тэйлар
**У ролях:** Арнольд Шварцэнегер, Джэйсан Кларк, Эмілія Кларк, Джай Кортні, Дж.К. Сіманс, Даё Окейі, Мэт Сміт, Кортні Б. Вэнс, Лі Бён Хон
ЗША, 125 хв.
**Адзнака:** 7

2029. Ідзе вайна са Скайнэт — машынамі-паўстанцамі. Пасля ўдалага штурму базы машын Скайнэт выкарыстоўвае апошнюю зброю: пасылае ў мінулае тэрмінатара. Зразумеўшы гэта, Джон Конар, лідар супраціву, пасылае сяржанта Кайла Рыза ў 1984 год, каб абараніць сваю маці, Сару Конар, і выратаваць будучыню. Нечаканы паварот падзей стварае разлом у часе, і Рыз апынаецца ў новай, незнаёмай, версіі мінулага. Там ён сустракае саюзнікаў: Сару і перапраграмаванага Тэрмінатара Т-800, які выхоўваў яе з дзяцінства. Ім давядзецца сутыкнуцца з нечаканым ворагам.

Чарговы фільм вядомай франшызы выйшаў з дабраславення рэжысёра першых дзвюх частак Джэймса Кэмерана. Сцэнарысты Лаэта Калагрыдзіс і Патрык Люсье тройчы адмаўляліся ад прапановы напісаць сцэнар да гэтага фільма, таму што ім не падабаўся сюжэт трэцяй і чацвёртай частак. Пагадзіліся яны толькі пасля асабістай гутаркі з Джэймсам Кэмеранам.

Вялікім набыткам стаў і ўдзел вядучага акцёра франшызы — Арнольда Шварцэнегера.

«Не думаю, што фільм адбыўся б без Арнольда. Франшыза ажыла менавіта таму, што ён хацеў зрабіць яшчэ адну частку. Мы любім яго ў гэтай ролі. Ён неад'емная частка серыі», — упэўнены Джай Кортні, выканаўца ролі Кайла Рыза. Жалезны Арні за фільм мяняе некалькі абліччаў. Цела маладога Шварцэнегера ў фільме сыграў акцёр і бодзібілдар Брэт Азар. А ў альтэрнатыўнай будучыні 2017-га ўзрост акцёра было вырашана не хаваць. Тлумачальны сюжэтны ход прапанаваў Кэмеран: нібыта жывая тканка, якой пакрыты Тэрмінатар, можа старэць, а валасы робата — сівець.

Галоўную жаночую ролю выканала зорка серыяла «Гульня тронаў», абаяльная брытанка Эмілія Кларк. «Давялося прайсці немала трэніровак, каб стаць Сарай Конар. Яна мае шмат здольнасцяў, якімі я не валодала. Таму іх атрыманне дапамагло зразумець яе характар. Трэніроўкі былі важныя, бо па сюжэце сам Тэрмінатар вучыў мяне ратаваць свет. Эмілія гэтага не ўмела», — жартуе Кларк.




Сюжэт зноў выкарыстоўвае папулярную ў навуковай фантастыцы тэму падарожжаў у часе. Але цяпер яна набывае найбольшы размах, даданая і ідэя пра альтэрнатыўную часавую лінію. Сталыя аматары НФ не ўбачаць для сябе тут нічога новага, але змогуць палюбавацца на Шварцэнегера ў легендарным вобразе. Стужка здолела захаваць дынаміку найлепшых частак франшызы.

**Настасся Уласава**

# Дык ці будзе ў Беларусі нацыяналізм, або Куды падацца патрыёту ў Беларусі?

Пытанне не такое і простае, як можа падацца. Вось нядаўна міністр замежных спраў Макей заявіў, што улада не дапусціць на Беларусі нацыяналізму, але чыйго? Беларускага, расейскага, а можа, лаоскага? Макей меў на ўвазе нацыяналізм як нешта дрэннае.

Я сябар Салігорскай суполкі ТБМ, у яе ж уваходзіць і мой дарослы сын Малочка Аляксандр, якога нядаўна затрымалі супрацоўнікі ДАІ Салігорска і якому было адмоўлена ў складанні пратакола па-беларуску.

Гісторыя мае працяг. Пратакол на Аляксандра, дарэчы, склалі за тое, што ў яго на аўто на пасажырскіх вокнах былі так званыя шторкі, што дапускаецца тэхрэгламентам Беларусі. Гэта па-першае. Па-другое, пратакол склалі як за паўторнае парушэнне на працягу года.

У пятніцу 2 ліпеня яго выклікалі ў Салігорскую ДАІ для разгляду справы. Аказалася, што паўторнасці няма і супрацоўнікі ДАІ хочуць перапісаць пратакол. Але яны і чуць не хочуць пра складанне пратакола па-беларуску. Адклалі разгляд — будуць думаць!

У краіне двухмоўе, кажуць даішнікі. А зараз пытанне да спадароў Макея і Трусава: ці павінен просты грамадзянін нашай краіны ведаць абедзве дзяржаўныя мовы? Ці павінны дзяржслужачыя, у тым ліку і супрацоўнікі ДАІ, ведаць абедзве дзяржаўныя мовы і не «адфутбольваць» адну з іх — беларускую?

Дык я ж сам юрыст, два дзясяткі гадоў аддаў службе ў міліцыі. Адказ ясны: дзяржслужачыя павінны ведаць абедзве дзяржаўныя мовы, а просты грамадзянін мае права гаварыць, і пісаць, і чытаць на любой!

А далей было вось што. Мне даслалі раздрукоўку са старонкі ўкантакце сына аднаго з супрацоўнікаў ДАІ, які складаў пратакол на Аляксандра і якому 17 гадоў. Што там напісана? Што ён «русский». І мяне ўразіла, што ў перапісцы з сябрамі пра затрыманне Аляксандра гэты хлопец піша: «Найду этого националиста...» Гэта піша 17-гадовы юнак, сын супрацоўніка ДАІ, які працуе на беларускую дзяржаву!

**У вачах гэтага хлопца Аляксандр «нацыяналіст» толькі за тое, што запатрабаваў, каб склалі пратакол на беларускай мове!**

У вачах гэтага хлопца Аляксандр — «нацыяналіст» (у дрэнным сэнсе) толькі за тое, што запатрабаваў, каб склалі пратакол на дзяржаўнай беларускай мове!

Дык якога «нацыяналізму» не павінна дапусціць Беларуская дзяржава?

**Віктар Малочка, беларус і патрыёт беларускай Беларусі, падпалкоўнік міліцыі ў адстаўцы, кіраўнік Мінскай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі**



**Трусаў: Нацыяналізму ў нас не будзе, у нас будзе патрыятызм**

Выказванні Уладзіміра Макея пракаментаваў і старшыня Таварыства беларускай мовы, гісторык **Алег Трусаў**.

«Я з ім згодны, нацыяналістычных памкненняў у Беларусі не будзе. У нас памкненні толькі патрыятычныя. Трэба быць патрыётам, а не невядома кім. Патрыятызм — гэта асноўнае, што трэба гадаваць у Беларусі. І кожны грамадзянін павінен быць патрыётам. І ўсе гэтыя выслоўі тыпу «нацыяналіст» — гэта нядобрая спадчына Савецкага Саюза. Трэба ўжываць слова «патрыёт», і кожны грамадзянін, незалежна ад нацыянальнасці, павінен быць патрыётам сваёй краіны».

## Пра недахоп культуры ў музеі Караткевіча ў Оршы

27 чэрвеня да мяне прыехалі госці. Па традыцыі пайшлі ў музей Караткевіча.

Абурыла не тое, што супрацоўнікаў прыйшлося шукаць, сорамна перад гасцямі за іншае. Сярод нас быў чалавек, які добра ведае біяграфію і творчасць Уладзіміра Караткевіча, таму, набыўшы квіткі, паслугамі экскурсавода вырашылі не карыстацца.

Не прайшло і 10 хвілін, як аднекуль зверху зляцела загадчыца музея і ва ультыматыўнай форме заявіла, што экскурсія платная і яна яе будзе праводзіць. Не даслухаўшы да канца і спаслаўшыся на недахоп часу, мы пакінулі «культурную» установу, дзе блытаюць даты і не ведаюць даклад-на прозвішчы.

Мне сорамна перад гасцямі, і таму прашу прабачэння ад імя ўсіх сумленных і выхаваных аршанцаў.

**Генадзь Шэпелеў, Орша**

**Ад Рэдакцыі.** Музеям даводзяць план продажу білетаў і экскурсій, вось і стараюцца загадчыкі. Вы маглі б пазбегнуць канфліктнай сітуацыі, калі аплацілі б экскурсію і пры гэтым мякка папрасілі яе не праводзіць.

**Ад рэдактара**

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты.

У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы нараканні павінны быць законнымі і справядлівымі.

Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**

**e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29 Skype: nashaniva**



# Апошняе «Слова»

*«Вести Новороссии» ў бібліятэцы Мінскага лінгвістычнага ўніверсітэта. Піша* **Кацярына Андрэева**.

Я апынулася ў чытальнай зале перакладчыцкага факультэта МДЛУ. Кінуўшы позірк на стэнд з газетамі ды часопісамі, адразу ўбачыла сярод звыклых дзяржаўных выданняў расейскую газету «Слово». Дарэчы, больш расейскай прэсы на стэндзе не было, толькі беларуская.

Разгарнула і здзівілася: тут і «великий Сталин», і руская вясна (усё доўжыцца, па меркаванні яе прыхільнікаў), і нейкія «неабандэраўцы», і — самы смак — «мемуары» тэрарыстаў пад аднабокагераічным соусам пуцінскай прапаганды. Дык праект «Наваросія» ўжо не існуе, эксперымент жа скончыўся…

Такім чынам, у сталічным ВНУ, наўпрост у чытальні, можна бесперашкодна даведацца пра апошнія навіны… Адкуль вы думалі?

Ды не проста даведацца, а атрымаць сваю дозу імперскай мікстуры, клапатліва выпісанай з Масквы загадчыкам ін'язаўскай бібліятэкі.

На пытанне, хто складае падпіску, лабарант адказала так: «Наш галоўны бібліятэкар складае гэты спіс. Але кожны факультэт сам замаўляе сабе газеты, якія лічыць патрэбнымі». Яе словы прагучалі не надта ветліва. «Прабачце, а дзеля якой мэты Вы цікавіцеся?»

…І сапраўды. Якая мэта? Ды проста праз чытальную залу факультэта кожны дзень праходзяць сотні замежных студэнтаў ды дзясяткі выкладчыкаў: з Амерыкі, Еўропы, Азіі. І мяне абсалютна не павінна турбаваць, што, узяўшы свежы нумар «Слова», яны ўбачаць здзек з самога факта (!) незалежнасці суседняй Украіны: пахабныя «анекдоты», за якімі насамрэч стаяць загубленыя жыцці людзей.

Што прачытае наш госць, захоплены вывучэннем рускай мовы і культуры? Як абараняць вялікую дзяржаву ад «жыдамасонаў»?

Чаму пасля анексіі Крыма жыць там стала лепей, жыць стала весялей?

Ці, можа, чытач атрымае эстэтычную асалоду ад вершыкаў кшталту «абамка-абезьянка»?

А магчыма, яму будзе цікава даведацца, з якой чарговай ініцыятывай выступілі лімонаўскія нацболы?

А вось перл (у Лінгвістычным універсітэце!): «Русский язык — самый лучший и богатый язык на свете».

«Гэта не тое, што я мару вывучаць, не тая культура», — зробіць высновы адэкватны замежны студэнт.

Разумны чалавек задумаецца: чаму гэткія выданні распаўсюджваюцца ў Беларусі, дый яшчэ ў асветніцкім цэнтры? Чым кіруецца бібліятэка МДЛУ, замаўляючы «Слова»? І калі ватная макулатура спакойна ляжыць на паліцах, чаму адсутнічае незалежная альбо апазіцыйная прэса?

Я прыйшла да Ларысы Іванаўны, загадчыцы бібліятэкі alma mater, у надзеі атрымаць адказ:

— Мяне, як грамадзянку Беларусі крыўдзяць некаторыя рэчы ў гэтай газеце, лічу, што ва ўніверсітэтах распаўсюд прапаганды не можа мець месца. Зазірніце ў любы артыкул — спрэс «русскій мір»!

Жанчына паглядзела на мяне, быццам бы ўбачыла цуд прыроды.

— Ой, праўда?! Дзякуй, што сказалі. На наступнае паўгоддзе адмовімся ад падпіскі!

Вось як проста, аказваецца. А калі «адмовімся» — значыць, хтосьці прапануе?

Думаю, бібліятэкарка не захацела падымаць гоман вакол тэмы.

Няма чаго здзіўляцца — у тым жа МДЛУ працуюць вельмі цікавыя выкладчыкі.

Я памятаю, як загадчык кафедры філасофіі, дацэнт Баранаў, прымаў у мяне залік па дысцыпліне «Сацыялогія грамадскай думкі». У якасці прыкладу праяўлення грамадзянскай актыўнасці я прыводзіла падзеі на Майдане, прычым з нейтральнага пункту гледжання. У адказ пачула: «Ды я сам «Беркут»! Я маёра атрымаў у Данецку, яшчэ ў 80-х! Уся мая сям'я адтуль!» Калі я задала лагічнае пытанне, ці гатовы ён сёння пры любой пагрозе абараняць Радзіму, незалежную Беларусь, яе народ, яе прэзідэнта, той замяўся, а пасля выпаліў: «Бе-ла-русь… што заўгодна… Русь я гатовы абараняць! А з прэзідэнтам я шмат у чым не згодны… Ідзіце, таварыш журналіст». І сунуў мне залікоўку.

Толькі ўчора такія сацыёлагі заганялі студэнтаў у БРСМ. Цяпер ён, бач ты, не згодны.

Сяргей Даўлатаў калісьці пісаў: «Сказались тенденции исторического процесса».

На заліку па рэлігіязнаўстве мой ужо падрыхтаваны мозг зноў апрацоўвалі, пры гэтым ужываючы словаспалучэнні «духовные скрепы», «мировая закулиса», час ад часу ўзгадваліся любімыя «бандэраўцы»…

Дзякуй Богу і Балонскаму працэсу, не ўся прафесура такая. Сярод выкладчыкаў МДЛУ ёсць годныя людзі і сапраўдныя прафесіяналы слова.

Іх час яшчэ прыйдзе, а пакуль што — вось вам гарэзлівая ўсмешка Сталіна.

**Ці Вы сутыкаліся з такімі фактамі ў іншых універсітэтах? Пішыце нам.**

## Каралеўскі дом на будаўнічай пляцоўцы новай гасцініцы

Падыходзіць да завяршэння будаўніцтва сучаснай гасцініцы «Еўропа» на вуліцы Замкавай у Навагрудку. Падчас зямельных работ спецыялісты адшукалі шмат старажытных рэчаў. З Інстытута гісторыі НАН былі запрошаны спецыялісты для навуковага вывучэння артэфактаў.

На будаўнічай пляцоўцы былі адшуканыя старажытныя прадметы побыту: шкляны посуд, керамічныя вырабы, бранзалет, касцяны грабеньчык і іншае. Археолагам удалося нават натрапіць на элементы старажытнай гарадской забудовы, пад ёй знаходзяцца элементы будынкаў яшчэ больш ранніх перыядаў. Спецыялістамі выяўлена, што тут захавалася не менш за чатыры ярусы пабудоў розных часоў.

Таксама археолагі адшукалі кафліну XVI ст. з вензелем караля Жыгімонта Аўгуста. Магчыма, што на гэтым месцы стаяў будынак, што належаў каралеўскай сям'і.

«Пра старажытны Навагрудак XI—XIII стагоддзяў мы ўжо ведаем даўно і даволі шмат, а вось пра больш позні перыяд — амаль нічога», — адзначае кіраўнік раскопак старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Ірэна Ганецкая.

Цяпер над вызначэннем «узросту» адшуканых пабудоў працуюць спецыялісты па дэндралогіі.

Ёсць меркаванні, што верхні зруб — квадратнай формы. Памер яго — 3,4 м на 3,4 м. Адносіцца да XII—XIII стагоддзяў. Тут, магчыма, размяшчалася яшчэ і карчма: знойдзена шмат шклянога посуду рознай формы, аскепкі глінянага посуду.

Гаспадар гасцініцы «Еўропа» Валерый Поткін плануе выдзеліць месца для экспазіцыі гэтых цікавых прадметаў у новай гасцініцы, бо старажытных экспанатаў ужо нямала знойдзена. Напрыклад, шкляная бутэлька з пасланнем да «нашчадкаў», датаваная 1933 годам.

**Яўген Лапцеў, Навагрудак**



# «Сам рос у дзетдоме і маленькага Арцёма пакінуў сіратой»

У аварыі пад Гомелем **забілася маладая сям'я.**

27 чэрвеня ў Гомельскім раёне на трасе Віцебск—Гомель «Шкода» выскачыла на сустрэчную паласу і ўрэзалася ў «Мерседэс». 23-гадовы кіроўца «Шкоды» сканаў у бальніцы, яго 25-гадовая жонка памерла на месцы. 62-гадовы кіроўца «немца» шпіталізаваны з рознымі траўмамі.

Здарэнне адбылося каля вёскі Сасноўка днём у суботу. Уладзімір, кіроўца «Шкоды», вырашыў абагнаць фуру і выехаў на сустрэчку. А там — «Мерседэс». Спрабуючы пазбегнуць сутыкнення, хлопец паспеў сысці ўлева. Але моцны ўдар прыйшоўся ў правы бок, дзе сядзела жонка Таццяна.



TUT.BY

«Мерседэс» выратаваў моцны кузаў.



Відавочца, які праязджаў пасля аварыі, лічыць, што абганяць у тым месцы — латарэя. Там закругленне дарогі і не праглядаецца добра праезная частка.

Выявілася, што ў маладой сям'і застаўся трохгадовы сын Арцём.

«Працавалі разам з Таццянай. Светлым і цудоўным чалавекам была. З ёй прыемна было мець зносіны. Ведаю, што ў мужа Тані бацькі таксама рана пайшлі з жыцця. У іх застаўся маленькі сын — 3 гады. І крэдыт на кватэру», — расказвае калега загінулай Аляксандр.

Уладзімір у дзяцінстве застаўся без бацькоў і трапіў у інтэрнат у Светлагорск.

«Мы былі з Вовам аднакласнікамі, калі вы разумееце, пра што я. Выраслі — раз'ехаліся. І пасля ўжо я знайшоў яго ў сецыве. Даведаўся, што ён ажаніўся, ёсць дзіця. Пры гэтым ён не адпісаўся, чым займаецца і што па жыцці ў яго. Ён і ў дзяцінстве быў сціплым. Таму, калі вы разумееце, што за дзяцінства мы пражылі, я абавязаны выпіць за гэтага чалавека 100 грам», — прыгадаў Васіль. Але не змог распавесці, што здарылася з бацькамі хлопца.

«Гэта быў цудоўны чалавек, добры, заўжды дапамагаў. І жонка яго была добрай. Я радаваўся, калі ў іх з'явілася дзіця, калі яны пераехалі ў новую кватэру. Здавалася, што ўсё ў іх наладзілася, а тут такое. У Валодзі не было сям'і, сам ён рос у дзетдоме і маленькага Арцёма пакінуў сіратой. Надта шкада, я ніколі іх не забуду», — засмучаны Максім, сябра сям'і.

У ДАІ паведамілі, што сёлета за пяць месяцаў праз парушэнне правілаў абгону на дарогах краіны адбылося 24 аварыі, у якіх загінулі альбо былі траўмаваны людзі.

**Сяргей Макарэвіч**

# «Чорныя рыэлтары» ў Магілёве капалі магілы яшчэ для жывых ахвяр

Следчыя агучылі **падрабязнасці рэзанананснай справы.**

Па справе праходзяць два мужчыны і жанчына, якіх падазраюць у забойстве шасці чалавек і падрыхтоўцы яшчэ да шэрагу.

Летась у лістападзе ў міліцыю звярнуўся жыхар Магілёва: прасіў адшукаць яго адзінокага сваяка. Аператыўнікі высветлілі, што зніклы ў верасні быў выпісаны са сваёй кватэры і зарэгістраваны ў адной з вёсак Мінскага раёна. Пацягнулі за ніточку далей і выйшлі на яго сувязі з беспрацоўным магілёўцам і яго жонкай. Абое раней паспелі адседзець за махлярства з нерухомасцю. Іх затрымалі толькі сёлета ў сакавіку разам з прыяцелем, калі везлі чарговую ахвяру: 51-гадовы мужчына пры сабе меў вялікую суму ад продажу кватэры. У лесе пад Магілёвам яго меркавалі забіць, а грошы забраць.

Пацягнулі яшчэ далей — і раскрылася цэлая схема «чорных рыэлтараў», пры рэалізацыі якой забілі шасцёра чалавек. Як мяркуецца, затрыманая тройца выступала пасярэднікамі пры продажы жытла. Усё адбывалася легальна. А пасля ўгоды яны вывозілі прадаўцоў з грашыма, пасля чаго іх след абрываўся. Першы вядомы факт такой працы адносіцца да 2009.



SK.GOV.BY

На эксгумацыю выязджаў старшыня СК Валянцін Шаеў (справа).

Спосаб «разводу» выбіраўся ў залежнасці ад канкрэтнай сітуацыі, але было два варыянты: ці пад выглядам маладой сямейнай пары, ці ў вобразе судовага выканаўцы, які прыйшоў спаганяць даўгі па камунальных паслугах.

Абвінавачаныя схілялі кожнага з пацярпелых прадаць кватэру. Тут у ход ішлі розныя спосабы: прапаноўваўся алкаголь, прадукты, грошы. Ім абяцалі дапамогу ў набыцці больш таннага жылля. Далей распісваліся прыгожыя перспектывы жыцця за кошт розніцы ад вырučаных пры продажы кватэр грошай.

Каб канчаткова развеяць сумневы ў праўдзівасці сваіх намераў, абвінавачаныя бралі ў арэнду на суткі якую-небудзь кватэру ў Магілёве і прывозілі туды ахвяру. Пры гэтым ладзілі цэлы спектакль: у ролі гаспадара здымнай кватэры выступаў нехта з тройцы, і, калі ахвяра пагаджалася, змоўшчыку дэманстратыўна перадавалі заклад за «куплю» кватэры. А з небаракі бралі распіску, што ён гарантуе вяртанне сумы закладу.

У далейшым «чорныя рыэлтары» дапамагалі ахвяры з афармленнем і зборам дакументаў для продажу сваёй кватэры, перадавалі грошы на пагашэнне камунальнай запазычанасці. На імя пацярпелага рэгістраваліся два тэлефонныя нумары і набываліся два недарагія мабільнікі. Адзін тэлефон заставаўся ў ахвяры, а другі — у абвінавачаных. Так канспіравалася сувязь паміж імі.

Далей у газетах і на сайтах размяшчаліся аб'явы аб продажы кватэры. У якасці кантактнага нумара размяшчаўся тэлефон «чорных рыэлтараў». Патэнцыйных пакупнікоў прасілі разлічвацца толькі гатоўкай.

Калі кватэру пераафармлялі, былых гаспадароў вывозілі за горад і забівалі. Прычым магілы для іх ужо былі выкапаныя: капалі пры жывых ахвярах за дзень, а то і за некалькі дзён да забойства. Для гэтага за невялікую ўзнагароду знаходзіліся ахвочыя, падставай для пахавання называлася смерць сваяка.

Сярод забітых — пяцёра мужчын і жанчына. Усе 1950—1960-х гадоў нараджэння. Ахвяр сабе выбіралі сярод адзінокіх людзей, якія вялі асацыяльны лад жыцця, выпівохі. Галоўнае, каб мелі ўласную кватэру. Целы ахвяр эксгумаваны. Не выключана, што ў гэтай злачыннай схеме маглі браць удзел работнікі камунальных службаў, якія і перадавалі зламыснікам звесткі пра выпівох. Цяпер устаноўлена яшчэ два факты падрыхтоўкі да забойстваў. Для дзвюх будучых ахвяр ужо былі выкапаныя магілы на могілках.

**Кастусь Матушыч**



**Вашы суседзі не зніклі?**

Калі вам вядомыя выпадкі нечаканага і бясследнага знікнення адзінокіх суседзяў, якія злоўжывалі спіртным, мелі запазычанасці па камунальных плацяжах, альбо людзі на фота (падазраваныя «чорныя рыэлтары») цікавіліся інфармацыяй пра такіх суседзяў, звяртайцеся ў Следчы камітэт на (17) 389-50-02.

## Сцісла

### Рэйнджарам з Цялушкі

Інцыдэнт здарыўся ўвечары 4 ліпеня ў вёсцы Цялушка Бабруйскага раёна. Некалькі чалавек стаялі на вуліцы, размаўлялі. Міма праязджала «Аўдзі». Раптам 26-гадовая дзяўчына адчула боль у локці. Як аказалася, куля, якая трапіла ў плот, адскочыла ў яе. Раненне не цяжкае, і шпіталізацыя пацярпелай не спатрэбілася. Страляў з пнеўматычнага пісталета 27-гадовы раней судзімы за наркату жыхар Бабруйска, які ехаў у аўтамабілі. Затрыманы.

### Панажоўшчына ў аўтобусе №57

2 ліпеня каля 11.20 паміж пасажырамі сталічнага аўтобуса №57 адбыўся канфлікт, які скончыўся панажоўшчынай. Адзін з мужчын нанёс іншаму нажавое раненне. Да аўтобуса быў накіраваны бліжэйшы экіпаж праваахоўнікаў — патруль ДАІ. Нападнік затрыманы. Пасажыр знаходзіцца ў бальніцы.

### Падлетак ашалеў і забіў маці

У Гомелі падлетка, які 28 лістапада 2014 года ў Жыткавічах забіў сваю маці, адправілі на прымусовае лячэнне. Ён будзе змешчаны ў стацыянар псіхіятрычнай бальніцы са строгім назіраннем на тэрмін, які вызначаць дактары. Экспертыза паказала, што падлетак пакутуе на псіхічнае захворванне і з'яўляецца небяспечным для грамадства. На момант забойства хлопцу было 16 гадоў, ён вучыўся ў 11-м класе. Падчас сваркі з маці ён ударыў яе пяць разоў кухонный сякерай па галаве.

**Школьнік вываліўся** Выпадак адбыўся каля прыпынку ў аграгарадку Солы (Смаргонскі раён). За некалькі метраў ад прыпынку дзверы аўтобуса адчыніліся. З аўтобуса, у якім ехалі дзеці, на хаду выскачыў і паваліўся 11-гадовы хлопчык. З цяжкімі траўмамі галавы яго шпіталізавалі. Заведзена крымінальная справа ў адносінах да кіроўцы за парушэнне правілаў эксплуатацыі аўтобуса.

### Трагічнае сутыкненне лодкі з гідрацыклам



SK.GOV.BY

У Рагачове завялі рэдкую для Беларусі крымінальную справу — за парушэнне правілаў эксплуатацыі маламерных судоў, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека. Здарэнне адбылося на возеры Святое. Дзве жанчыны і мужчына каталіся на возеры на гідрацыкле. Справа была пад вечар: ці то на гідрацыкле не разгледзелі катар, ці то ён быў няспраўны, у выніку адбылося сутыкненне. Прычым у ваду зваліўся кіроўца катара, які патануў. Людзі з гідрацыкла атрымалі пералом і менш значныя траўмы. Кіроўца гідрацыкла не меў правоў, катара — меў, але судна не стаяла на ўліку.

**КМ**

# Пад Александрыяй «БМВ» пратараніў прэзідэнцкі картэж

Пяць пацярпелых, **двое ў рэанімацыі.**

Аварыя адбылася на трасе Орша—Шклоў—Магілёў вечарам 5 ліпеня. На выхадных у аграгарадку Александрыя (Шклоўскі раён), дзе гадаваўся Аляксандр Лукашэнка, праходзіла штогадовае свята «Купалле» («Александрыя збірае сяброў»). Адкрываў свята кіраўнік дзяржавы. Калі Лукашэнка на верталёце адправіўся ў Мінск, яго картэж вяртаўся ў сталіцу вечарам у нядзелю.




Каля 21:00 жанчына — кіроўца «БМВ», у салоне якога знаходзілася шэсць чалавек, выехала на паласу сустрэчнага руху і ўрэзалася ў «Мерседэс Спрынтар», які ехаў у сустрэчным напрамку.

«Мерседэс» знаходзіўся ў складзе арганізаванай транспартнай калоны ў суправаджэнні транспартных сродкаў аператыўнага прызначэння з уключанымі маячкамі сіняга і чырвонага колераў», — паведамілі ў Следчым камітэце. У ведамстве, праўда, не ўдакладняюць наконт прыналежнасці картэжу. Па інфармацыі «Нашай Нівы», ён быў менавіта прэзідэнцкі.

У выніку сутыкнення кіроўца і трое пасажыраў «Мерседэса Спрынтара» атрымалі сур'ёзныя траўмы. «Двое з іх цяпер знаходзяцца ў цяжкім стане пасля праведзеных складаных хірургічных аперацый. Кіроўца «БМВ» шпіталізавана, але яе жыццю нічога не пагражае», — удакладнілі ў СК.

Сутыкненне адбылося ў паласе «Мерседэса», пра што сведчыць запіс з відэарэгістратара, усталяванага ў «Спрынтары».

«Вывучаюцца ўсе акалічнасці здарэння. Праводзяцца допыты пацярпелых і сведак, прызначаныя экспертныя даследаванні. У якасці падазраванай па крымінальнай справе, заведзенай па факце парушэння ПДР, што пацягнула па неасцярожнасці прычыненне цяжкага цяленснага пашкоджання, прыцягнутая 23-гадовая жыхарка Шклоўскага раёна. Вадзіцельскі стаж падазраванай — менш за два гады, правы на кіраванне аўтамабілем ёю атрымана ў лістападзе 2013 года», — дадалі ў СК.

**Кастусь Матушыч**

## У Мінску пачаўся суд па рэзананснай справе на вуліцы Гая

Але працэс **перавялі ў закрыты рэжым.**

Мінчук парэзаў жонку з дзецьмі, а затым на машыне збіў сямейную пару. Гэтая жахлівая навіна абляцела ўсю краіну 8 лістапада 2014. Вар'яцтва здарылася ў ціхім раёне прыватнага сектара на Смаргонскім завулку.

Паспяховы, здавалася б, бізнэсовец здымаў з сям'ёй паверх у прыватным доме. І вось нешта перамкнула ў галаве, што знявечыў жонку і малалетніх дзяцей, а потым у адных трусах сеў за руль свайго саліднага «Аўдзі А8» ды на хуткасці 150 кіламетраў за гадзіну пратараніў выпадковую машыну на дарозе так, што яна праляцела 70 метраў. І быў ён цвярозы, не пад наркатой.

Жонка, 8-гадовая дачка і 3-гадовы сын пасля той разні выжылі. А вось 42-гадовы кіроўца «Аўдзі-100», якую пратараніў бізнэсовец, загінуў на месцы разам з жонкай. Выявілася, мужчына працаваў кіроўцам хуткай дапамогі — і ў жыцці сам бачыў усякае. З жонкай ехаў за горад на адпачынак.


Родныя загінулай сямейнай пары (на фота) прасілі адкрытага судовага разбіральніцтва.
СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Яшчэ да суда 39-гадовага Эдуарда прызналі псіхічна хворым. На суд 6 ліпеня яго не прывезлі — лечаць. Але паколькі будуць гаварыць пра яго псіхічны стан, пракурор Наталля Сакалова папрасілі перавесці працэс у закрыты рэжым. Яе падтрымала і жонка Эдуарда, якая на судзе выступае пацярпелай. А вось родныя загінулай сям'і настойвалі на адкрытым працэсе. Суддзя ж падтрымаў пракурора.

Паколькі эксперты прызналі мужчыну неадэкватным, то пракурор будзе прасіць для яго не тэрмін у калоніі, а прымусовае лячэнне. Працягласць такога лячэння вызначаюць самі медыкі. Але ў выпадку, калі яны палічаць, што Эдуард выздаравеў, яго будуць зноў судзіць. І тады яму пагражае рэальны тэрмін.

Цяпер на судзе будуць прысутнічаць толькі пацярпелыя альбо іх прадстаўнікі. Між іншым, самога Эдуарда прадстаўляе яго бацька. Пацярпелымі прызнаны таксама сын і бацькі загінулай пары.

**СМ**

## У Вілейцы асудзілі кіроўцу, які насмерць збіў мліцыянта

У абедзюх сем'ях **засталіся малыя дзеці.**

У Вілейцы прайшоў суд над 22-гадовым кіроўцам «Кія», які зімой сеў п'яным за руль і збіў міліцыянта. Ён правядзе шэсць з паловай гадоў у калоніі-пасяленні. Ён таксама павінен сплаціць 600 мільёнаў рублёў матэрыяльнай кампенсацыі — пароўну жонцы і сыну загінулага.

Аварыя адбылася ў Вілейцы 3 лютага. У 20.20 ужо было цёмна, калі прапаршчык Дзяніс Шульгач **(на фота)** на міліцэйскай «Газелі» вяртаўся са службовага задання ў РАУС. Выехаў на вуліцу Першамайскую, на якой і знаходзіцца раённая міліцыя. Заставалася праехаць якіх 300 метраў. І тут на скрыжаванні, з другаснай дарогі, выскачыла «Кія». Легкавік уехаў «Газелі» ў бачыну, ад удару міліцэйская машына перакулілася. Гэта не самыя бойкія вуліцы Вілейкі, асабліва ўвечары. Выпадак, што ў адну секунду машыны пад'ехалі да аднаго скрыжавання.

25-гадовы кіроўца-міліцыянт загінуў. У яго застаўся аднагадовы сын. За рулём «Кія» быў п'яны хлопец, які атрымаў у аварыі чэрапна-мазгавую траўму, пералом сцягна. У яго толькі-толькі нарадзілася дзіця.



Жонка Яўгена, кіроўцы «Кія», між іншым, пасля здарэння тлумачыла ў сацыяльных сетках паводзіны мужа сямейнымі праблемамі. Маўляў, яму было нялёгка. «Усякае ў жыцці бывае, у нас вялікая праблема была. Не вытрымаў. Ён не спецыяльна, ён гэтага не хацеў».

Дзяніс Шульгач адпрацаваў у міліцыі толькі два гады — быў кіроўцам дзяжурна-аператыўнай службы.

**СМ**

## Бейсбольнай бітай збіў жонку да смерці

Пасля чаго **спрабаваў абдурыць следчых.**

Віцябчук звярнуўся ў міліцыю 29 снежня 2014: знікла яго 47-гадовая жонка. Яшчэ некалькі дзён таму не вярнулася дамоў. А дзе можа быць, не здагадваецца. Словам мужа, маладзейшага за сужэнку на 15 гадоў, далі веры і завялі крымінальную справу аб знікненні. Але не адкідалі ні адну з узніклых версій — нават пра забойства.

І пры праверцы адной з версій 27 лютага 2015 у яры каля вёскі Баронікі знайшлі цела зніклай. Агледзелі труп, правяліператрус на яе кватэры і затрымалі маладога ўдаўца. Мужчына, дарэчы, аказаўся раней судзімым за забойства, згвалтаванне і падробку дакументаў.

«Устаноўлена, што сямейная пара знаходзілася на мяжы разводу, у сувязі з чым паміж мужам і жонкай часта адбываліся сваркі. Напярэдадні забойства паміж імі зноў узнік канфлікт, у выніку якога мужчына збіў жанчыну бейсбольнай бітай. Пасля муж вывез труп у лясны масіў, дзе выкінуў яго ў канаву. Пры гэтым перад тым, як пазбавіцца ад трупа, выкраў з асабістых рэчаў жонкі каля 5 мільёнаў рублёў», — расказала прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова.

Каб адвесці ад сябе падазрэнне, мужчына пасля звароту ў міліцыю імітаваў заклапочанасць лёсам жонкі. Працягваў падтрымліваць кантакты з жончынымі сваякамі і яе сябрамі. Але пры гэтым пусціўся ў гулянку. Праз тыдзень пасля забойства нападпітку і пад уздзеяннем лекаў ён на жончыным аўто збіў дворніка, што чысціў дарогу. Той атрымаў цяжкія пашкоджанні.

Судзіць віцебчука будуць за забойства, крадзеж, парушэнне правілаў дарожнага руху нападпітку. Самае суровае пакаранне, якое яму пагражае, — расстрэл, бо ўжо быў судзімы за забойства.

**Кастусь Матушыч**

## Сціслa

### Маці гвалтавала сына і здымала на відэа

У Гродне затрымалі 23-гадовая жанчына, якую падазраюць у згвалтаванні 7-гадовага сына, а таксама у вырабе і распаўсюдзе порнаматэрыялаў. Яна здзекавалася з сына і здымала ўсё на вэб-камеру на камп'ютары, а затым відэа змясціла ў інтэрнэце.

### Айцішніку Камку далі 6 гадоў

Прадпрымальніка Аляксея Камка прысудзілі да 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Яго прызналі вінаватым ва ўтойванні заробку, незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці і распаўсюдзе парнаграфіі. Ён павінен сплаціць дзяржаве больш за 12 мільярдаў рублёў шкоды.

### Затрымалі серыйнага рабаўніка

26-гадовы беспрацоўны папаўся на рабаванні. Летась ён спрабаваў здзейсніць дзёрзкі напад на адну з крам Оршы. Калі прадавачкі сталі адбівацца, ён стрэліў у адну з іх і параніў. Падчас затрымання страляў і па міліцыянтах, але не пацэліў. Падчас расследавання выявілася, што затрыманы яшчэ чатыры разы засвяціўся на рабаваннні крам у Віцебскай і Мінскай абласцях.

### У расіяніна забралі рарытэтны «Бэнтлі»

Мытнікі ў пункце пропуску «Брузгі» пад Гроднам затрымалі аўтамабіль «Бэнтлі» 1929 выпуску. Расіянін спрабаваў выехаць на ім у Польшчу. Мытнікі палічылі аўто гістарычнай каштоўнасцю. Але дакументаў на права вывазу машыны ў кіроўцы не аказалася. Кошт аўто ацэньваюць у 7 мільярдаў рублёў.

**КМ**


BELTA.BY

# Кітайцы ў Беларусі: вайскоўцы, гандляры і калгаснікі

**Кітайская прысутнасць у Беларусі — з'ява не апошніх гадоў.**

Яшчэ падчас рэвалюцыйна-ваенных падзей у 1917—1920 на беларускіх землях дзейнічалі кітайскія вайсковыя падраздзяленні ў складзе інтэрнацыянальнай бальшавіцкай арміі. Пра іх, напрыклад, згадвае ва ўспамінах нацыянальны дзеяч Юры Сабалеўскі. Стаўленне мемурыста да кітайцаў у бальшавіцкім войску было выразна негатыўнае, паколькі ім, разам з іншымі ўсходнімі народамі, часта даручаліся карныя функцыі. Так, паводле Сабалеўскага: «Былі цэлыя роты кітайцаў, карэйцаў, сартаў, туркменаў, якім на плашчыне нібыта камуністычнага вызнавання было дазволена вынішчываць «буржуазію» і перабірацца ў вопратку пастраляных».




### «Пушчалі агонь»

З кітайцамі, у адрозненне ад прадстаўнікоў іншых народаў, немагчыма было дамовіцца і нешта ім растлумачыць (у тым ліку і з прычыны моўнага бар'ера): «З бальшавікамі на тую пару [у 1917 г.] можна было агрызацца, і бальшавікі ў кожным сваім выяве ў сваім складзе былі самастойнаю хадзячаю рэпрэзентацыяю на месцы, і яны, у сваю чаргу, маглі дазваляць, забараняць, разганяць, расстраляць ...і ўсё залежала ад складу камуністычнае баёўкі: калі матросы і расейцы, то яшчэ можна было таргавацца, калі палякі — справа горай, а калі яўрэі і латышы — прапашчая справа, тут трэба было капітуляваць і пагаджацца з загадамі, а калі ўводзіліся кітайцы, то тыя на знак камандзіра зараз пушчалі агонь, і тут ужо была безнадзейнасць уступаць у перакананні».

Непасрэдна Сабалеўскаму давялося сутыкнуцца з кітайцамі ў савецкай вайсковай форме ў 1919, калі ён быў арыштаваны бальшавікамі і чакаў разам з іншым вязнямі вырашэння свайго лёсу ў менскай турме: «Аднаго разу ўначы прыгналі некалькі сем'яў, злоўленых з фальшывымі дакументамі пры ўсілаванні дастацца на другі бок нейкае запрэтнае зоны. Пасярод іх выдзялялася адна сям'я: маці ў каракулевым манто, двое дзяцей, муж. Усе надзвычай старанна апрануты. Сям'ю гэтую адвялі на бок. Тыя нічога не разумелі. З аддалі сачылі за гэтаю працэдураю некалькі кітайцаў. Падышлі пад адстаўленых і доўга ўглядаліся ў твар. Шчупалі манто. Адзін падышоў пад самы твар жанчыны і пацягнуў за бараду. Рот адчыніўся і заблішчэла некалькі залатых каронак. Праз некалькі хвілін прышоў развод. Тумас і кітайцы павялі адстаўленых. Скончана».

Пасля вязням выпадкова ўдалося пабачыць, як іх вартавы, седзячы каля расчыненага акна «...чысціў аб палу шыняля залатыя каронкі з зубоў, а на сумцы ляжалі сярожкі. [...] А трохі пазней каравульны кітаец прышоў на развод і на яго паўвайсковай куртцы быў каракулевы каўнер, нязграбна прышыты».

Для кітайцаў у Сабалеўскага на ўсім працягу яго ных успамінаў не знайшлося аніводнага добрага слова. Адзіны выпадак, дзе аўтар усё ж такі мусіў аддаць чужынцам належнае, — гэта калі ён піша пра іх фанатычную ўпартасць падчас наступлення палякаў на заключным этапе польска-савецкай вайны: «Кітайцы не здаюцца ў палон і трымаюцца да астатняга патрона».

### Дробная галантарэя

Пасля заключэння Рыжскага міру і пачатку мірнага жыцця кітайская прысутнасць на беларускіх землях была выклікана найперш эканамічнымі чыннікамі. Берасце, Пінск, Бяроза, іншыя гарады ды мястэчкі Заходняй Беларусі прымалі ў сябе кітайскіх гандляроў. Тыя спыняліся ў мясцовых гатэльчыках і прадавалі беларускім месцічам парцаляну, абрусы, торбачкі, кашалькі, люстэркі ды іншую дробную галантарэю. Такім чынам, звычай карыстацца «зробленым у Кітаі» налічвае на Беларусі ўжо ледзь не сто гадоў.

Яшчэ і цяпер найстарэйшыя жыхары Брэстчыны ўзгадваюць выпадкі, звязаныя з кітайскімі гандлярамі. З расповеду жыхаркі вёскі Заказанка (Брэсцкі раён) Пелагеі Максімаўны Карнялюк, 1916 года нараджэння, вынікае, што сярод жыхароў Беларусі звесткі пра Кітай былі міфалагізаваныя настолькі, што лічылася, нібы кітайцы і беларусы маюць розную анатомію: «І кітайцы вельмі захацелі пабачыць нашых [дзяўчат]. Прыехалі з сумкамі на базар да Брэста, а нашы ўжо тое зналі, што яны хочуць. А нашы знайшлі такую дзяўчынку, яе навучылі, як трэба рабіць перад імі — плацчечка такое караценькае, каб яна, як нагнецца, каб яно аж на галаву, каб яны ўсё бачылі — і перад імі нагінацца, усё ім паказваць. І яны аж забыліся пра тыя сумкі, заглядзеліся. Дык хлопцы іх сумкі пакралі ў іх з-пад ног, свіснулі, каб ужо тая дзяўчынка адышла. І тая дзяўчынка пабегла, а кітайцы сталі сядаць — і сумак няма».

Пра кітайскіх гандляроў засталася памяць і ў дакументах. Так, вядома, што 14 снежня 1931 у польскую дзяржаву прыехаў кітайскі грамадзянін Тхен Кнай Сіонг, а 26 лютага 1932 ён спыніўся ў гатэлі ў Бярозе-Картузскай — малым мястэчку, якое тады было бойкім гандлёвым цэнтрам, і стаў гандляваць галантарэяй. Праз год, 20 студзеня 1932, туды сама прыехаў іншы падданы Кітая, Пан Го Вэй, і ў верасні 1932 г. прадаваў парцаляну, абрусы і дробную галантарэю.

### Кітайская арцель садаводчай спецыялізацыі

Калі ў Заходнюю Беларусь кітайцы прыязджалі перадусім гандляваць, то ва Усходнюю — працаваць у «камуністычным раі». На беларускіх савецкіх землях кітайскіх перасяленцаў да 1926 налічвалася 119 чалавек. Палова з іх жыла на Віцебшчыне, дзе да 1928 г. была створана кітайская арцель садаводчай спецыялізацыі (пазней — калгас «Маркавічы»). У яго былі аб'яднаныя сем кітайскіх сем'яў. Заезджы кітаец мог знайсці сабе працу і на беларускай чыгунцы. Вядома, што на VIII з'ездзе Саветаў працоўных, салдацкіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, які праходзіў 5—12 красавіка 1926 г., выступіў чыгуначнік з Віцебшчыны Чы Сун Чан. Праўда, змест яго выступу (паводле стэнаграмы, сустрэтага бурнымі воплескамі) застаўся невядомым з прычыны адсутнасці прафесійнага перакладчыка. Спрабаваў перакладаць «таварыш Малаковіч», які «працаваў некалькі гадоў на граніцах Кітая». Паводле яго слоў, выступоўца паходзіў з Паўночнай Маньчжурыі, дзе рабочых эксплуатуюць і не лічаць за людзей, зразумела, у адрозненне ад БССР. Абставіны перасялення гэтага чыгуначніка ў Беларусь засталіся невядомымі.

Акрамя ўсяго іншага, беларусам па абодва бакі рыжскай мяжы даводзілася часам бачыць і праезджых кітайцаў, паколькі па Беларусі праходзіла чыгунка з Заходняй Еўропы ў Харбін. Сваю паездку з двума кітайцамі, якія ехалі з Еўропы дадому, апісаў каталіцкі місіянер, ксёндз-беларус Язэп Германовіч. На адной усходнебеларускай станцыі транзітных кітайцаў акружылі дзеці з бутэлькамі малака, просячы: «Пан, купі ў мяне, у мяне!». Пан доўга таргаваўся, а калі пакупка ўжо была зроблена, перавёў заплачанае на даляры і падзяліўся з Германовічам: "Это буді шыбко дологой молоко! Мая больше пакупай не буді». Такім чынам, беларускія гандляры таксама зараблялі на кітайскіх пакупніках.

**Паліна Скурко, паводле Arche**

# Кітайская пральня. Накід рэканструкцыі

Раней яны не ведалі адзін аднаго. Пазнаёміліся толькі ў Віцебску. Прычым кожны ўжо ўладкаваўся на кватэру. Валодзя ў Рэвалюцыйным завулку, Юрка — на 1-й Ветэрынарнай, Ваня на Велікалужскай, Міхал на Суражскай, а Коля на Ленінскай.

Пазнаёміліся ў сталоўцы і з гэтага часу сталі працаваць разам. Заснавалі пральню, якая адразу набыла вядомасць у горадзе.

Акурат стаялі лютаўскія маразы, і нават бяз шыльды іх пральню можна было пазнаць здалёк — пара валіла з прачыненых вокнаў.

Гаспадыні хвалілі іх за чысціню і якасць работы, асабліва за глянцавыя каўнерыкі — гэта была «фішка» прачоў. А яшчэ яны заўсёды ўсім усміхаліся і дарылі дзецям карамелькі. Праўда, суворыя маткі забаранялі малым браць цукеркі з «чужых рук». Крыўдна, вядома. Але задавальненне ад якасные працы перабольшвала тую прыкрасць.

10 лютага — як гром сярод яснага неба — Юрку, Міхала, Колю і Валодзю арыштавалі. Іх вывелі проста з пральні і павялі па вуліцы пад канвоем. Яны нават не вельмі паверылі ў тое, што адбываецца — дарослыя мужчыны, усім добра за сорак, Юрку нават за 50 — што яны маглі набедакурыць, цэлымі днямі ўлягаючы пры бялізне? Ты яшчэ паспрабуй маленькай брыгадай за суткі памыць чатырыста кілаграмаў адзежы. Словам, думалі, што насланнё нейкае найшло, дурны сон.

У пральні застаўся адзін Ваня. Ясна, што столькі бялізны памыць-папрасаваць аднаму не пад сілу. Але ж і закрыць пральню Ваня не мог. Бо гэта значыла б нейкім чынам пагадзіцца з арыштам астатніх.

Праз два тыдні, крыху больш, 17-га, забралі і Ваню.

Цяпер яны зноў былі разам, толькі не ў пральні, а ў пекле. Самі яны, магчыма, і здагадваліся пра гэта, але да апошняга не верылі ў кепскае. Праз тры месяцы, 28 траўня, ім абвясцілі прысуд. Шпіянаж на карысць Японіі.

Яшчэ паўтара месяцы ім было адведзена на тое, каб жывымі адчуць і пераканацца, што яны насамрэч патрапілі ў пекла.

13 ліпеня 1938 года ў Віцебску Юрку Ван Сін Дуна, Ваню Лі Дзян Чэна, Міхала Чжан Лян Цяна, Колю Чжан Чжай Яо і Валодзю Юін Цян Сі расстралялі.

Ці засталася ў горадзе памяць пра кітайскую пральню, невядома. Што да факта, дык ён захоўваецца ў архіве УКГБ Віцебскай вобласці ў справе 8587-П, як яшчэ адно сведчанне неадназначнай гісторыі кітайскіх прадпрыемстваў у Беларусі.

**Сяргей Дубавец, svaboda.org**

# Чароўная крэйдачка

Казка. Піша **Анатоль Івашчанка.**

Хаця пасля ў розных справаздачах аб прафілактыцы правапарушэнняў і нават у адной забаўляльнай перадачцы пад назовам «Зона Ха» (што займае найвышэйшыя месцы ў рэйтынгу любові глядацкай) тое прадстаўлялася як загадзя сплянаваная дэструктыўная акцыя па дэстабілізацыі абстаноўкі на выспе спакою ды стабільнасці, насамрэч усё адбылося досыць спантанна...

Быў файны суботні красавіцкі ранак (нягледзячы на ажно тры прыметнікі запар, лепшае фразы для пачатку нашае гісторыі знайсці немагчыма). Сямейства ***вічаў, паснедаўшы, выправілася на шпацыр. Неба было яснае, паветра празрыстае. Толькі адкульсьці злева спаквала насоўвалася пакуль невялікая шэрая хмарка.

Яны ішлі, паўз некалькі дзіцячых пляцовак з горачкамі, арэлькамі й нават адным самалёцікам, паўз шапік з марозівам, паўз скверык з застылымі ў радзінаўскіх асанах бабулькамі на лавах, паўз збегі іншых шыпячых і свісцячых — маленькая Ганулька ў вазочку, мама, тата і старэйшая Волечка поруч, — покуль не апынуліся на шырокім ходніку вуліцы імя аднаго вялікага паэта.

Мама ўбачыла крамку, што вабіла шалёнымі адсоткамі зніжак, намаляванымі наўскасяк шыбінаў, і вырашыла забегчы ў яе. «Усяго на пяць хвілінак, дарагі!» Тата ведаў гэтыя «пяць хвілінак», але нічога не сказаў, а толькі глыбака ўздыхнуў.

Ганулька і Волечка засталіся з ім. Волечка хацела была пайсці з мамай, але тата нагадаў ёй пра чароўную крэйдачку, што ляжала ў кішэні ягонага пінжака (ну, вядома ж, гэта была самая звычайная крэйда, набытая ў самым звычайным канцылярскім аддзеле самай стабільнай краіны сусвету, але Волечка цалкам давярала тату. Яна ж ведала, што тата ніколі не маніць, пра што ён перыядычна нагадваў, а тонкім майстэрствам маны-на-мяжы яшчэ не авалодала. Зрэшты, вядома таксама, што раз на год і палка страляе).

У вазку ў пластмасавым вядзерцы ляжала крэйда звычайная — чырвоная, памаранчавая, жоўтая, зялёная, блакітная. Ну і гэтак далей. І вось дзяўчаткі з апантанасцю маладых кукрыніксаў кінуліся размалёўваць ходнік.

Тата прысеў на бардзюр, назіраючы, як на ходнікавых плітачках з'яўляюцца малюнкі: матылёк, паветраны шарык, ружовая балонка, страказа, што сядае на гіганцкую кветку, — з-пад Волеччыных крэйдачак і рознакаляровыя каляві-маляві — з-пад Ганульчыных. Па небе плылі аблокі, па ходніку ішлі мінакі, і ў таты ўзнікла непераадольнае жаданне далучыцца. Да таго ж Волечка закрычала: «Татка, татачка! Даставай чароўную крэйдачку, будзем літаркі пісаць! Чароўныя!»

З усіх кавалкаў менавіта белы быў чароўным. Дагэтуль яны ўжо некалькі разоў спыняліся ў розных дварах, і тата ўрачыста пісаў магічнае слова — на ліхтарным слупе, на дзвярах закінутага гаража, на трансфарматарнай будцы. Слова з трох літараў. Ён і сам не зусім разумеў, чаму яму раптам, бы маладому цімураўцу, захацелася распісаць наваколле гэтымі трыма літаркамі, якія ўжо паспелі крыху набіць аскоміну. Гэтае слова можна было пабачыць на шматлікіх сцэнах — як рэальных, так і віртуальных. Гэтай абрэвіятурую стала модным казаць сціслыя ды ёмістыя тосты. Вядома ж, ён не верыў у яе, гэтае абрэвіятуры, магічнасць. Тады на халеру пісаць? Пратэст дзеля пратэсту? Гэтыя няўцямныя маўклівыя пляскáнні ў ладкі... Абсурдовасць у імя змагання з навакольным абсурдам? Хіба што так.

Ён запусціў руку ў кішэнь пінжака, выняў загорнуты ў сурвэтку кавалак крэйды і вялікімі, двухметровымі, літарамі тоўста накрэмзаў на ходніку: . . .

* * *

Вера працавала ў газеце «Наша Віна». Фотакарэспандэнтам. Сваю дзіўную здольнасць яна заўважыла, калі ёй споўнілася дваццаць два. То бок, мажліва, дагэтуль нічога такога дзівоснага яна й не выбрыляла. А можа, выбрыляла, але папросту не заўважала.

Ці, найхутчэй, акурат разам з тым, як заўважыла і паверыла, — здольнасць гэтая і пачала актыўна праяўляцца... Вось жа, Вера валодала здольнасцю апынацца там, дзе адбываюцца Здарэнні. Яе ўвесь час цягнула туды, дзе мусіла здарыцца нейкая трасца. Колькі яна пабачыла ДТЗ рознай ступені цяжкасці, колькі людзей сталага й маладога веку панаварочвалася на бананавых скурках альбо падледзянелым ходніку, колькі котак не мінула колаў аўто, колькі ледзяшоў... Зрэшты, ніхто не ведае. І яна не лічыла.

Адбываліся Здарэнні выключна ў той момант, калі Вера проста кудысьці ішла. Альбо проста дзесьці сядзела, занятая сваімі думкамі. Ці бавілася ўлюбёнай справай — глядзела на свет праз аб'ектыў здымача. То бок калі яна думала пра гэтае незразумелае наланнё (а няцяжка здагадацца, што думала яна пра яго цяпер заўсёды), то нічога не адбывалася. Праз тое колькасць няшчасных выпадкаў, стыхійных бедстваў ды іншых катаклізмаў вакол крыху скарацілася. Але варта было крышачку расслабіцца і, прыкладам, пайсці карміць качак у парк, як абавязкова хто-небудзь з мінакоў апынаўся ў вадзе.

«Можа быць, нада мной варонка?» — казала яна сяброўцы, крадком пазіраючы на неба.

«Ды не, проста ў цябе магніт у адным месцы», — рэзюмавала сяброўка.

Усё гэта доўжылася цягам восені. Узімку ж у яе суперстабільнай краіне пачаліся такія рэчы, якія ўвагналі Веру, і яе знаёмых, і знаёмых яе знаёмых у глыбокі ступар.

Вядома ж, ніхто не меў ілюзіяў адносна вынікаў чарговай элегантнай перамогі ў матчы на адну браму. Але мала хто чакаў, што сем з дзесяцёх кандыдатаў на княскі сталец апынуцца за кратамі. Некаторыя — моцна збітыя. У якім яны стане і дзе хто знаходзіцца — невядома. Сотні людзей з паадбіванымі ныркамі ды выкручанымі канцавінамі цягнуць суткі ў перапоўненых прамерзлых камерах...

Некалькі дзён пасля крывавай бойні, што адбывалася пад пільным наглядам чугуннага правадыра-разенбома на самай вялікай плошчы самай стабільнай краіны свету, па горадзе ездзілі аўтазакі. Найперш іх мэтай былі кватэры ды офісы праваабаронцаў, партыйцаў, журналістаў. Большасць незалежных інтэрнэт-рэсурсаў альбо «ляжала», альбо працавала ў абмежаваным доступе. Па сацсетках папаўзлі чуткі, што вядомы паэт, адзін з галоўных апанентаў, стваральнік руху «Не вярзі лухту», сканаў у вязніцы...

А мо не чуткі? Чаму ж ужо тыдзень як няма аніякіх звестак ні пра яго, ні пра астатніх? Чаму гэтак раз'юшана пырскае слінай з замбаскрыньяў галоўны трыумфатар — крэпкі стары Разнебом?.. Гэтыя «чаму» вярэдзілі Верчын розум, не адпускаючы ні ўдзень, ні ўночы. Варта заплюшчыць вочы, і нібы ў аб'ектыве здымача — кадры з Плошчы і з Праспекту. Шчоўк: ланцужкі людзей з розных бакоў, бы мурашы, суладным крокам сцякаюцца да Саркафага. Стаяць на святлафорах і, цярпліва прычакаўшы зялёнага, рушаць далей ужо невялікімі натоўпамі... Шчоўк — кадрык з праспектавага шэсця: высокі хлопчык-гот, там-сям папраколваны, у ботах ледзь не да калена, з даўгімі распушчанымі валасамі... Шпацыруе. Куды? Навошта? Вера, назіраючы гэты шматтысячны згустак эйфарыі, сама не дужа ведала адказ. А хлопчык-гот — ведаў. Шырокі ўпэўнены крок. Позірк крыху паўзверх натоўпу. І такі... адухоўлены твар. Хоць ты абраз з яго пішы.

А пасля было збіццё.

Вера і раней бачыла разгоны мітынгаў, але гэтым разам, выглядала, далі адмашку біць фулкантакт. Нібыта ў кагосьці, хто сядзеў за пультам кіравання ў фатэлі, ушчэнт сарвала разьбу ад такой колькасці няўдзячных васалаў. Вошаў блыхастых. Шалудзівай масы адмарозкаў. Пятае калоны, што разгойдвае нашую выспу стабільнасці... І ён скамандаваў: ату іх!

І кожны ведаў, хто вінаваты. Хаця многія здагадваліся, што гэты нехта — вынік, а не прычына. І што гэтага нехта неабходна забіць, але — у галовах мільёнаў. Між тым практычнага дапаможніка пад назвай «Як забіць цмока ў сабе» на той момант яшчэ ніхто не напісаў...

У адрозненне ад іншых, Вера ведала адказ не толькі на пытанне, хто вінаваты, але і — што рабіць.

Яна пачала наведваць афіцыйныя мерапрыемствы, справаздачныя канцэрты заслужаных дзеячаў эстрады Рэспублікі Бульбарыя, прагульвацца каля адміністратыўных будынкаў, нярэдка пракладала свой маршрут паўз тыя ж вуліцы ды праспекты, дзе ездзіў картэж вялікага чорнага аўтамабіля. Аднойчы нават схадзіла на хакейны матч. Пасведчанне журналіста, здымач з даўгім аб'ектывам і чароўная прывабнасць, якую не падробіш і не прап'еш, адчынялі перад ёй усе дзверы.

Вера не вельмі ўяўляла, што канкрэтна ёй трэба рабіць і што мусіць адбыцца. Але цвёрда ведала: нельга памятаць пра сваю здольнасць у гэты момант. Толькі вось лёгка сказаць — нельга. Але як? Ды яна ўвесьчасна толькі й думала пра свой пракляты дар і яго наступствы!

Адно добра: няшчасныя выпадкі перасталі здарацца. Зусім. І Вера пачала ўжо верыць, што са знікненнем сімптомаў знікла і хвароба.

Між тым прыйшла вясна. І вось адным файным суботнім красавіцкім ранкам Вера, прыхапіўшы здымач-люстэрку, рушыла на шпацыр па вуліцы імя аднаго вялікага паэта...

* * *

Волечка адразу ж змалявала таткаву абрэвіятуру. І хутка ўвесь ходнік уздоўж і ўпоперак быў распісаны гэтымі трыма літаркамі. А Ганулька скакала вакол, паўтараючы: «Сос! Сос!» (шыпячыя яна вымаўляць яшчэ не ўмела). І з цікаўнасцю зазірала ў вочы мінакоў. Яе вусны скляліся ў смешную грымасу — як заўжды, калі яна не ведала, ці ўсміхацца, ці паварнуць дужку смайліка ў адваротны бок.

З-пад крэйдак Волечкі з'яўляліся зайчыкі, коцікі, сэрцайкі, вершнік з аголеным мячом, вясёлка, хвалістыя лініі якой утваралі крамольнае спалучэнне з усяго двух колераў — чырвонага і белага. І ніжэй — забаронены дэструктыўны лозунг, які належаў пяру яшчэ аднаго вялікага паэты.

Па плітачках ходніка, размаляваных чароўнымі літарамі і дзіцячымі графіці, цокалі, тупалі, скакалі, брылі, дыбалі боты, сандалікі, чаравікі, берцы, пантофлі... Прыгожая дзяўчына гадоў дваццаці са здымачом-люстэркай прыпынілася ля таткі з дзвюма дочкамі, апанаванымі творчым імпэтам.

Вера (так звалі дзяўчыну), спытаўшыся дазволу, пачала фоткаць сімпатычную сямейку. Дзяўчаткі, перапэцканыя крэйдай, з addaваленнем пазіравалі на фоне зайчыкаў-коцікаў-сэрцайкаў і дэструктыўных надпісаў на асфальце.

Яна так захапілася працэсам, што не адразу заўважыла, як пацямнела. Шэрая хмарка пераўтварылася ў нацягнуты на ўсё неба пірацкі штандар. Праезная частка апусцела. З-за рогу выязджаў картэж вялікай чорнай машыны.

* * *

Валеры Іванавіч, як толькі сышоў снег і крыху падсохла, перабіраўся жыць на лецішча. Дагляду сад, падкошваў газон, карміў напаўздзічэлых сабакаў, што прыходзілі да яго з навакольных вёсак. Прачынаўся з сонцам, рабіў зарадку, паліў і спяваў ваенныя песні. Ён быў палкоўнік у адстаўцы. Былы зенітчык. Прайшоў некалькі гарачых кропак. За В'етнам, разам з павышэннем, атрымаў чырвоныя «Жыгулі».

(У бардачку ляжаў афіцэрскі гадзіннік з гравіроўкай. Калісьці падчас маштабных аператыўных стратэгічных вучэнняў за ўзорную стральбу па ўмоўным праціўніку ён атрымаў іх ад галоўнакамандуючага. Праўда, не ўласнаруч, а праз пасыльнага. На гадзінніку быў герб, дзе на чырвоным тле імчаў вершнік з аголеным мячом — у бок умоўнага праціўніка. Але, як толькі камандуючы адчуў сваю моц і гэты сімвал змянілі, палкоўнік гадзіннік не надзяваў. Паклаў яго ў бардачок, дзе ён і праляжаў пятнаццаць гадоў.)

Аўто Валеры Іванавіч, як і ўсю сваю рухомую й нерухомую ўласнасць, трымаў ва ўзорным стане. Бліскучы храмаваны бампер. Ніводнай увагнутасці ці, крый божа, іржаўчыны па кузаве. Дагледжаны рухавічок з чысцюткімі дроцікамі й корпусам без ніводнае алійнае плямы... І нумары яшчэ старыя, чорныя, памятаеце?

У сталіцу Валеры Іванавіч прыехаў па харчы — для сябе і сабакаў. Заскочыў на Камары — і назад, у бок сваёй Крыжоўкі, па Багдановіча (Валеры Іванавіч па старой звычцы казаў «Горкага»).

І вось едзе Валеры Іванавіч па сваім сярэднім шэрагу (ён стараўся ніколі без вострай неабходнасці не займаць крайнія палосы), нікога не чапае ды чуе — ззаду сірэна. Зірнуў у люстэрка — набліжаецца картэж: дашнікі, матацыклы, вялізны чорны лімузін... Валеры Іванавіч паказаў правы паварот, пачаў выкручваць стырно, і тут штосьці гучна шчоўкнула. З матора пацягнула гарэлай праводкай і з-пад капота шугануў белы дым...

* * *

У вялікай чорнай машыне, якую суправаджаў міліцэйскі картэж, ззаду сядзеў чалавек. Ён абыякава пазіраў на горад праз моцна танаваныя і браняваныя шыбіны.

Куды ён ехаў гэтым файным красавіцкім ранкам? Нам тое невядома. Ды і сам ён ці памятаў, куды яго вязуць? Па ідэі, у аэрапорт — сустракаць не чужога нам госця з сяброўскай краіны, дзе шануюць выспу стабільнасці і парадку.

Ён даўно прызвычаіўся да існавання ў рэжыме цэйтноту. Сустрэчы, выступы, брыфінгі, запісы, спартовыя спаборніцтвы. Даклады, справаздачы, звальненні, прызначэнні. Звычайныя клопаты звышчалавека...

Пасажыр вялікай чорнай машыны стаміўся. А вы думаеце проста столькі год трымаць на сваіх плячах мір і спакой?.. Ён прыхінуўся да падгалоўніка і задрамаў.

Яму сніўся нейкі хакейны матч. Агромністая лядовая арэна, уся запоўненая гледачамі. Прычым бачыць ён яе спачатку зверху, агульным планам, нібыта на вялізнай плазме. Потым, як перад пачаткам тэлетрансляцыі, план пачынае хутка набліжацца і факусавацца на хакейнай пляцоўцы, а менавіта — на адным з брамнікаў. І тут жа карцінка пераключаецца так, што ён пачынае бачыць пляцоўку вачыма гульца. З боку брамы. Ён разумее, што брамнік — гэта ён сам. І насустрач яму нясецца форвард каманды



**Анатоль Івашчанка**

Нар. 1981. Пісьменнік, працуе ў незалежным літаратурным часопісе «Дзеяслоў». Жанаты, гадуе траіх дзяцей.

супернікаў ва ўсёй амуніцыі. Раптам чалавек бачыць, што ён голы. Зусім. Як кол. І з усіх бакоў шчоўкаюць сполахі сотняў фотакамераў і глядзяць тысячы вачэй. Але замест таго, каб прыкрыцца, ён расстаўляе ногі на шырыні плячэй і робіць стойку футбольнага галкіпера, рыхтуючыся злавіць ці адбіць шайбу.

Між тым форвард ужо за некалькі метраў. Ён размахваецца клюшкай, і шайба ляціць проста ў нічым не абароненае пераноссе. У апошні момант брамнік паспяваецца прыгнуцца і ўхіліцца ад удару.

За брамай загараецца чырвоная лямпачка, і раздаецца пранізлівы сігнал, які азначае, што шайба ў варотах.

Чалавек уздрыгнуў і прачнуўся ад віскату тармазоў і рэзкіх гукаў міліцэйскіх спецсігналаў.

Наперадзе, проста пасярод дарогі, зацягнутая белым дымам, стаяла чырвоная «капейка».

Картэж спыніўся.

«Чаму стаім?» — запытаўся ён у кіроўцы.

«Форс-мажор, таварыш Вярхоўны. Рухацца небяспечна».

Ён паглядзеў наперад. Сітуацыя была нетыповая. За васямнаццаць гадоў кіравання такое, бадай, здарылася ўпершыню. Вядома ж, можна было аб'ехаць гэтага карча. А раптам выбухне?.. Не, такі зыход быў бы непапраўнай стратай для ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва й моцна пахіснуў бы баланс сілаў у сусвеце. Служба аховы прыняла слушнае рашэнне — пачакаць.

* * *

Вера, як і шматлікія мінакі, бачыла, як загарэўся «Жыгуль». Як перад гэтым адзінокі аўтамабільчык, гнаны мігалкамі ды спецсігналамі, не здолеў саступіць дарогу картэжу.

З салона выйшаў сталага веку мужчына ў старэнькім, але чыстым ды ахайным камуфляжы. У руках ён трымаў вагнягаснік.

Вера зразумела: вось яно, пачалося.

І тут жа зразумела, што паколькі яна гэта зразумела, то ўсё і скончылася. Захопленая фатаграфаваннем, яна забылася на дар. У выніку пацярпеў ні ў чым не вінны пенсіянер.

А пасажыру вялікай чорнай машыны хоць бы хны. Зараз згасяць пажар, і паедзе ён сабе спакойна далей — сустракаць кагосьці ў аэрапорце.

Да палкоўніка ў адстаўцы падбеглі міліцыянты з картэжу. Паглядзелі, што небяспекі няма. Хуценька дапамаглі выявіць і ліквідаваць прычыны ўзгарання. Праводка, мауляў, дзесьці прасіфоніла й дала іскру. (Валеры Іванавіч пасля, па вяртанні з допытаў, на гаражным кансіліуме казаў: «Якая лухта! Я ўсе дроцікі мяняў нядаўна ўласнаруч. Містыка нейкая».)

Палкоўнік у адстаўцы сеў у аўто, адкрыў бардачок, двума пальцамі дастаў гадзіннік, узяў сцізорык і надрапаў штосьці на адваротным баку — паўзверх гравіроўкі. Мы не бярэмся сказаць з пэўнасцю, што дакладна, але ёсць звесткі, што гэта былі ўсяго тры літары. Палкоўнік папрасіў міліцыянтаў перадаць гадзіннік пасажыру чорнай машыны.

Раптам малая Ганулечка, якая ўвесь гэты час глядзела то на тату, то на Веру, то на чорнае аўто, нібыта штосьці ўключылася ў ёй, як закрычыць: «Сос! Сос!»

І старэйшая Волечка падхапіла: «Шос! Шос!» (А менавіта гэтыя тры чароўныя літаркі напісаў тата на ходніку.)

І Вера — чаго ўжо ёй губляць? — далучылася. Ды яшчэ і ў ладкі пляскаць пачала.

І ўся шматлюдная вуліца імя Паэта таксама пачала крычаць гэтае слова і пляскаць у ладкі.

І нават пасажыр чорнай машыны, ахоплены ўсеагульным парывам, пачаў пляскаць у ладкі і крычаць. Ну а як? Ён жа з народам. Ды ён і ёсць народ! Толькі гэтага ніхто не пабачыў праз моцна танаванае браніраванае шкло.

У гэты час з крамы выйшла ў меру ашчасліўленая матуля з новым пакецікам. Яна паглядзела на ўсё гэта — на задымлены «жыгулёнак», картэж чорнай машыны, размаляваны ходнік і дзетак на ім, што крычалі ў бок чорнай машыны слова з трох літар, і падышла да таты, які паціскаў плячыма і ніякавата пасміхаўся.

«Ну вось, я ж так і ведала, што нельга вас і на пяць хвілін адных пакінуць!»

Даволі хутка, аператыўна, адкульсці з'явіліся з тузін аператараў-блізнятаў з пракіслымі фізіяноміямі і аднолькавымі кішэннымі камерамі. Ну, вы ведаеце...

І вось тут, па ўсіх законах жанру, мусіў бы пайсці дождж. Сапраўдны патоп, які змыў бы і крэйдавыя словы ды іншыя вешчдокі на ходніку, і ціхароў, і картэж...

І дождж насамрэч пайшоў. Вера хуценька закрыла аб'ектыў здымача. Палкоўнік зачыніў капот сваёй ластаўкі. І відэааператараў кудысьці змыла. Толькі вось картэж чорнага аўтамабіля з пасажырам у ім не знік.

Пасажыр трымаў на далоні афіцэрскі гадзіннік з белым вершнікам на чырвоным тле. Прычым — вершнікам уніз. Ён глядзеў на тры літаркі, надрапаныя сцізорыкам паўзверх гравіроўкі «За верную службу Айчыне». І надрапана там было зусім не «шос».

А Вера назаўтра пайшла ў пашпартны стол і, выйшаўшы з яго, займела новае імя — Воля. І хочаце верце, а хочаце не — але ўся гэтая трасца з няшчаснымі выпадкамі спынілася.

Ну, а аўтару застаецца зрабіць адзінае, што можа ў гэтай сітуацыі зрабіць сумленны аўтар — папрасіць прабачэння. Даруй, чытачу, за тое, што на самым пачатку я табе схлусіў. Гэта была самая сапраўдная чароўная крэйдачка.

Дык што — памалюем?!



## Святлана Куль

### Знайдзі мяне, любы

Сыноў і дачок я табе нарадзіць не паспею,
Ні мары няма і ні веры, і нават надзеі,
Застаўся ўспамін.
Толькі ён дарагі і агульны.
У іншым жыцці, не такім раскіданым і грэшным,
Якое, магчыма, нам Бог падаруе па смерці,
Знайдзі мяне, любы, каб зноў без цябе не памерці,
Каб дзеці і дом, і каб сад, і каб кошык чарэшні.

### Я еду дадому

Я еду дадому, душы засталася палова,
Амаль што нямко — на чужыне язык скамянеў.
Я еду дадому, дзе родныя цёплыя словы
Сябрамі старымі цярпліва чакаюць мяне.
Чакаюць патэльня, відэлец, падлога, фіранка,
І клямка, і столя, шуфлядка, масніца, дыван,
Чакаюць сурвэтка, кутасік, завала і брамка,
І веснічкі з імі, і сцежка, кілім і паркан.
Вялізарным слоўнікам поўніцца родная хата,
Чакаюць стракаты, прыгожы і нават сівы,
Чырвоны, блакітны і бэзавы, шэры, пухнаты —
Як лепшыя лекі для сумнай маёй галавы.
Абдымуць прыслоўе мяне і маленькі займеннік,
Назоўнік прылашчыцца, сцісне руку дзеяслоў.
З паловай душы ад чужой нематы і здранцвення
Я еду па словы, па родную мову — дамоў.

# Arche прапануе: пяць кніг пра Заходнюю Беларусь

У рамках новага распродажу рэдакцыя «Arche» прапануе калекцыю з пяці папулярных публікацый, прысвечаных Заходняй Беларусі. Іх сукупны аб'ём амаль 2400 старонак.

**Тэматычны выпуск «Заходняя Беларусь. Міжваенны перыяд»**

Заходнебеларуская спадчына — гэта шмат ў чым «няздручнае мінулае». Яно было такім у савецкі час, а з пэўнымі зменамі ды мадыфікацыямі застаецца і цяпер. Натуральна, дзякуючы высілкам акадэмічнай супольнасці, асабліва за апошнія 25 гадоў, было шмат зроблена для лепшага разумення і асэнсавання як міжваеннага перыяду ды вераснёўскіх падзей, так і асаблівасцяў ды месца Заходняй Беларусі ў пасляваеннай БССР. Шмат «белых плямаў», аднак, застаецца і сёння.




**Тэматычны выпуск «Гарадзенскі мілеpopulum»**

Асноўнай тэмай дадзенага нумара «Arche» стала Гародня як цэнтр прыцягнення. Геаграфічнае становішча дало магчымасць гораду быць важным адміністрацыйным цэнтрам на працягу стагоддзяў. Адпаведна Гародня паўплывала на рэгіён, стала месцам гістарычных падзей, істотных не толькі для Гарадзеншчыны, але і для краіны. Артыкулы нумара ахопліваюць перыяд ад Сярэднявечча да сучаснасці, дадаючы ў агульную скарбонку новыя веды па гісторыі Гародні і Гарадзеншчыны ў сферы палітыкі, архітэктуры, культуры, эканомікі і інш. Сярод аўтараў нумара — Алег Ліцкевіч, Наталля Сліж, Вячаслаў Швед, Андрэй Кіштымаў, Андрэй Вашкевіч, Таццяна Касатая і іншыя беларускія, польскія і расійскія даследчыкі.




**Ян Шумскі. «Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944—1953 г.): Прапаганда і адукацыя на службе ідэалогіі»**

У кнізе паказаныя перамены, якія адбываліся ў 1944—1953 гг. у жыцці і свядомасці жыхароў заходніх абласцей БССР, якія перад Першай сусветнай вайной уваходзілі ў склад Польшчы. На старонках выдання прадстаўлена даследаванне нацыянальнага, кадравага, культурна-асветніцкага і прапагандысцка-інфармацыйнага аспектаў працэсу саветызацыі на акрэсленых тэрыторыях.




**Уладзімір Ляхоўскі. Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX ст. — 1-й палове XX ст. (да 1939 г.)**




У манаграфіі, напісанай у форме навукова-папулярнага нарыса, разглядаецца грамадска-палітычная і культурна-асветная праца беларускіх маладзёвых суполак і згуртаванняў у тым ліку ў Заходняй Беларусі міжваеннага часу. Разлічана на шырокае кола чытачоў.

**Ян Станкевіч. «За родную мову й праўдзівы назоў»**

Грунтоўная калекцыя публіцыстычных і навуковых артыкулаў выдатнага заходнебеларускага дзеяча.




**Інфармацыя пра тое, як замовіць выданні — на сайце часопіса arche.by.**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Сёлетні афіцыйны Дзень Незалежнасці адзначылі ў Мінску ва ўрэзаным фармаце. Адсутнічаў традыцыйны парад, а асноўнай пляцоўкай святкавання стала мінскае Замчышча ля Палаца спорту. Гандлёвыя шэрагі з шашлыком па 20 тысяч, сцэна з Ірынай Дарафеевай і гуртам «Дразды», фантан, у якім можна купацца, — асноўныя атрыбуты сёлетняга 3 Ліпеня.**







**Свята Маці Божай Будслаўскай у гэтым годзе наведалі больш за 10 тысяч чалавек, у тым ліку 3000 пешых пілігрымаў. Вялікая частка ўдзельнікаў, збольшага моладзь, была апранутая ў дзень свята ў вышытыя беларускія кашулі і іншую вопратку з нацыянальным арнаментам і сімволікай.**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Побач з Кафедральным саборам Святога Духа і плошчай Свабоды з'явілася лава Агінскага. Лава выкананая з металу і стылізаваная пад герб роду Агінскіх, на якім святы Георгій на белым кані забівае чорнага цмока. Унізе, чамусьці па-руску, месціцца надпіс: «Выбітнаму сыну Айчыны — Агінскаму Міхаілу Клеафасу».**



ПАВЕЛ ХАДЗІНСКІ

**27 чэрвеня ў Архікатэдральным касцёле ў Мінску адбылося біскупскае пасвячэнне кс. Аляксандра Яшэўскага (справа) SDB, якога папа Францішак прызначыў дапаможным біскупам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Калі б выбары ў Беларусі нешта мянялі, іх бы даўно забаранілі.

* * *

Падарожнік чакае ў аэрапорце на адлёт свайго самалёта. Рэйс затрымліваецца. Падарожнік ідзе ў буфет і замаўляе сабе кілішак каньяку. Каштуе.

— Выдатны ў вас каньяк! Але мушу ісці на самалёт. Запакуйце мне з сабою дзве бутэлькі гэтага выдатнага каньяку.

Толькі прайшоў у залу для тых, хто адлятае, як ізноў аб'ява: «Рэйс адкладаецца на дзве гадзіны». Няма чаго рабіць, адкаркоўвае толькі што набытую бутэльку, каштуе — чай! Бяжыць да бармэна.

— Ты мяне падмануў!

— Я цябе падмануў?! Гэта ты мяне падмануў: ты ж казаў, што адлятаеш!

* * *

— Апішы нашы адносіны ў двух словах.

— Нашы што?

* * *

— Каханы, хачу пафарбавацца летам у руды колер.

— Навошта?

— Хачу што-небудзь арыгінальнае зрабіць з галавой.

— Пачытай кнігу.

* * *

Грэцыя запатрабавала ва ўсяго свету плату за 2500 гадоў выкарыстання дэмакратыі. «Расія і Беларусь нам нічога не вінаватыя», — удакладнілі грэкі.

* * *

Калі жонка кажа, што не брала, значыць, не аддасць.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Маленне аб пабедзе.** Святы Сінод апавесціў пастанову аб наладжэнні 8 ліпеня па ўсёй Расеі працэсіі і малення да Бога аб дараванні хрысціянскаму расейскаму войску пабеды над ворагам, а такжа аб спосабах падтрымання набожнасці ў жыхароў дзяржавы.

**«НН». №25. 1915.**

**Сапега вярнуўся ў горад-герой Быхаў.** Быхаўскі замак арандаваў Максім Сапега. Ён фермер і займаецца лесам. Прадзед Сапегаў-фермераў быў афіцэрам царскай арміі, пахадзіў з вёскі, што належала Сапегам-магнатам. Максім водзіць нас па паверхах, паказвае ўпэўненымі рухамі гаспадара. Тут комін, праз яго відаць неба... У смелых марах Максіма выкупіць замак і адрэстаўраваць.

**«НН». №25. 2005.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6700. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 07.07.2015.
Замова №2613.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

